*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 18(403) 5 ТРАЎНЯ 1999 г.**

## ЗАЯВА САКРАТАРЫЯТА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

12 красавіка была падпалена яўрэйская сінагога ў Менску. Яшчэ раней былі зруйнаваныя яўрэйскія могілкі ў розных гарадах Беларусі, апаганены свастыкай шапік ТБМ. З гісторыі Еўропы мы добра ведаем, чым заканчваюцца падобныя з'явы, калі грамадства і дзяржава не даюць ім своечасова рашучай і адназначнай ацэнкі.

Таму мы патрабуем ад уладаў дэталёвага расследавання ганебнага ўчынку, пошуку і пакарання вінаватых. Патрабуем закрыцця ўсіх прафашысцкіх і антыбеларускіх арганізацый і іх філіялаў на тэрыторыі нашай Радзімы.

16.04.1999 г. Сакратарыят ТБМ

## Моладзь гуртуецца вакол ТБМ

Падчас 6 з'езда ТБМ сярод маладых дэлегатаў узнікла ідэя стварэння пры Таварыстве беларускай маладзёвай арганізацыі. Вось ужо другі тыдзень па пятніцах у сядзібе ТБМ збіралася моладзь на паседжанні. У рамках арганізацыі плануецца праводзіць вечарыны, на якія будуць запрашацца беларускія паэты, пісьменнікі, барды, навукоўцы і інш. Праводзіць асветніцкую і адукацыйную дзейнасць. Распрацоўваць і праводзіць у жыццё праекты па адраджэнні беларускай мовы. Арганізацыя прававога забяспячэння беларускамоўнага студэнцтва і школьніцтва, аператыўнага рэагавання на дэскрымінацыю моладзі, якая імкнецца атрымаць адукацыю на роднай мове. Наладзіць летняе працаўладкаванне маладых сяброў ТБМ па-за межамі Беларусі. А таксама навуковая праца, інфармацыйная дзейнасць, разнастайныя вандроўкі па Беларусі, і шмат чаго іншага Калі вы хочаце знайсці аднадумцаў, прыняць удзел у працы на карысць Бацькаўшчыны, прыходзьце ў сядзібу ТБМ у кожную пятніцу а 17-й гадзіне. Адрас сядзібы: г. Менск, вул. Румянцава, 13.

*Алесь Гурыновіч.*

### Беларускаму гледачу кіно па-беларуску

8 траўня ў сядзібе ТБМ у г. Менску, Румянцава 13 адбудзецца дабрачынны паказ стужкі "Пяты элемент" (ЗША), перакладзены на беларускую мову. Запрашаем усіх жадаючых на прэм'еру фільма а 12 гадзіне. Вашыя дабрачынныя ахвяраванні падчас дэманстрацыі стужкі пойдуць на пераклад новых фільмаў. Беларускаму гледачу - кіно па-беларуску!!! Па пытаннях набыцця відэакасет звяртацца па адрасу: 220107, г. Менск, а/с 150.

5 траўня "БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА" і газета "РАНІЦА" праводзяць жывую тэлефонную лінію з гуртом "НЕЙРО ДЮБЕЛЬ". Аляксандр Кулінковіч і іншыя музыкі чакаюць вашых тэлефанаванняў з 16.00 да 18.00 па тэл.: (017) 2682670 і (017) 2682588.

6 траўня "БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА" і газета "БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ" праводзяць жывую тэлефонную лінію з гуртом "ЗЬНІЧ" Вашых тэлефанаванняў чакаюць Алесь ТАБОЛІЧ і іншыя музыкі па тэл.(017)2209804 з 16.00 да 17.00.

11 траўня у перадачы "ЗАТЕРЯННЫЙ МИР" (РАДЫЁ "МІР") у жывым эфіры адбудзецца сустрэча з выдаўцамі CD "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: СЛУХАЙ СВАЁ". Пачатак 23.00. Будзе разыграны CD.

14 траўня ў клубе "АКВАРЫУМ" (Кульман 14) адбудзецца прэзентацыя альбомаў "ЯЗЫЧНІК-Я." і "ДУХ ЗЯМЛІ" гурта "ЗЬНІЧ". Пачатак у 19.00 У гасьцях - POSTSCRIPTUM, VICIOUS CRUSADE і інш. Папярэдне замовіць касеты і квіткі можна па тэл.: (017) 2490888 і (017) 2656362.

## Ахвяраванні на ТБМ:

| | |
|---|---|
| 1. Дамашэвіч Уладзімір г. Менск | - 500.000 руб. |
| 2. Дзямід Мікола г. Менск | - 500.000 руб. |
| 3. Будаўнік з Менска | - 10.000.000 руб. |
| 4. А.К. г. Менск | - 7.000.000 руб. |
| 5. Голубеў Уладзімір г. Менск | - 150.000 руб. |
| 6. Клецкая Рада ТБМ | - 206.000 руб. |
| 7. Содаль Уладзімір г. Менск | - 300.000 руб. |
| 8. Вашко Лявон г. Менск | - 7.300.000 руб. |
| 9. Карповіч Алесь г. Рыга | - 1.000.000 руб. |
| 10. Кішкурна Уладзімір г. Менск | - 500.000 руб. |
| 11. Варзопаў П. П. г. Полацк | - 500.000 руб. |
| 12. Беларускі фонд культуры | - 3.000.000 руб. |
| 13. Стрэльчанка В. | - 1.000.000 руб. |
| 14. Петрукові\u0447 Васіль г. Менск | - 400.000 руб. |
| 15. ПТВ - 210 г. Першамайскі | - 786.000 руб. |
| 16. ТАА "Элвіс -96" | - 5.000.000 руб. |
| 17. Асацыяцыя "Белая Арка" | - 3.000.000 руб. |
| 18.Лецяга І.У., г. Менск | - 100.000 руб. |
| 19.Новік Іван, г. Пінск | - 300.000 руб. |
| 20.ОРО СПБ РБ, г. Орша | - 2.000.000 руб. |
| 21.Качаргіна Людміла, в. Палата | - 1.000.000 руб. |
| 22.Акулевіч Тамара, г. Калінкавічы | - 620.000 руб. |
| 23.Трафімчык Т.У., г. Слонім | - 400.000 руб. |
| 24.Ф.І.В., Докшыцы | - 1 000 000 руб. |
| 25.Валошчык Мікалай, г. Белаазёрск | - 600.000 руб. |
| 26.Клуб "Спадчына" Палатоўскай СШ Полацкага р-на | - 100.000 руб. |
| 27.Жыдц Валянцін | - 300 000 руб. |

| | |
|---|---|
| КальварыйскаРада БНФ "Адраджэнне" Фрунзенскага р-на | |
| Гусява С.А. | — 10 000 руб. |
| Касцянкова В.І. | – 20 000 руб. |
| Марковіч А.П. | – 100 000 руб. |
| Тумілевіч Г.П. | – 200 000 руб. |
| Герасімовіч В.І. | —35 000 руб. |
| Турук Рыгор | — 100 000 руб. |
| Дрозд Ю.П. | - 100 000 руб. |
| Марозаў В.П. | - 100 000 руб. |
| Лапенка А.К. | – 35 000 руб. |

| | |
|---|---|
| Рада гістфака БДУ | — 100 000 руб. |
| Спадчына (25%) | — 220 000 руб. |
| Н.Свержанская суполка | - 500 000 руб. |
| "Спаемства" | — 595 000 руб. |
| Суполка кафедры бібліятэказнаўства БУК | - 185 000 руб. |
| Суполка ТБМ гім.№4 г.Менска | — 475 000 руб. |
| Суполка "Паненкі" з БУК | — 105 000 руб. |
| Дамашэвіч Уладзімір, г. Менск | - 500 000 руб. |
| Дзямід Мікола, г. Менск | — 500 000 руб. |
| Суполка БПУ г.Менск | — 2.000.000 руб. |
| Будаўнік з Менска | — 10.000.000 руб. |
| Абілаў Кахін | — 7.000.000 руб. |
| Цыянская суполка, Сав.р-н | – 131 000 руб. |
| Складкі выкл.БДТУ | — 3.285.000 руб. |
| Складкі Студэнт.БДТУ | — 835 000руб. |
| Педкаледж.№1(кнігі,значкі) | --3.840.000 руб. |
| БУК суполка "Роднаеслова" | – 80.000 руб. |
| БУК.кафедра бел. мовы | — 435 000 руб. |
| Трафімчук Т.У.Слонім | — 400 000 руб. |
| Суполка БУК група 103 | — 70 000 руб. |
| Суполка інстыт. мовазнаўства НАН | - 1.400.000 руб. |
| ФіВ | — 100.000 руб. |

| | |
|---|---|
| Беларуская нацыянальная партыя | — 180.000 руб. |
| Лідская Рада ТБМ | — 10 $ |
| Голубеў Уладзімір | — 150.000 руб. |
| Клецкая Рада ТБМ | — 206.000 руб. |
| Ракасоўск.суп.№5 | — 1.000.000 руб. |
| Кручакі Сымон і Алена | — 1.000.000 руб. |
| Мікуліцкая суполка | — 145.000 руб. |
| Суполка №2 Цэнтрал.р-на г.Менска | - 650.000 руб. |
| Бураўкін Г.М. | - 1.000.000 руб. |
| Дзеружынскі Авяр'ян інжынер з Менска | - 700.000 руб. |

## "Беларусь - наш еўрапейскі дом"

17 - 18 красавіка ў Гародні прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская нацыянальная ідэя".

Арганізатарам канферэнцыі выступіў Каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва". Аргкамітэт склалі; старшыня - Сямён Домаш, сябры : Алесь Астроўскі, Уладзімір Конан, Ігар Кузміні\u0447, Таццяна Канопкіна, Фелікс Гавін.




У канферэнцыі ўзялі ўдзел больш 60 тэарэтыкаў і практыкаў беларускага нацыянальнага руху з усёй Беларусі, але пераважна з Менску і Гародні, а таксама з Украіны і Польшчы.

Што рабіць, куды ісці, да якой мэты імкнуцца, каб захаваць, развіць беларускую нацыю паставіць яе поруч з іншымі на месца аднаведнае яе заслугам перад цывілізацыяй.

"Беларусь - наш еўрапейскі дом," - гэтая формула была вызначана сціслым сутнікам беларускай нацыянальнай ідэі. Разгорнутая трактоўка павінна патлумачыць не толькі глыбінёвую сутнасць кожнага слова кароткай фармулы, але абгрунтаваць іх. Трэба чакаць што разгорнутая трактоўка павінна з'явіцца ў зборніку матэрыялаў канферэнцыі, які плануецца выдаць. Па магчымасці "Наша слова" пазнаёміць сваіх чытачоў з найбольш цікавымі матэрыяламі зборніка.

**Станіслаў Суднік.**

**Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт, А. М. Пяткевічу**
**Рэдактару газеты "Наша слова" С. Судніку**

Шаноўны Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч!

Мушу заўважыць, што ў краязнаўчым каляндары на 1999 год "Людзі культуры Гродзеншчыны" Вы, пэўна, забылі згадаць Міхася Іванавіча Мельніка, якому 7 лістапада 1999 года спаўняецца 50 гадоў з дня нараджэння.

Ён у 1972 годзе скончыў філфак Гродзенскага педінстытута імя Я.Купалы, працаваў намеснікам дырэктара Красноўскай і Голдаўскай сярэдніх школ Лідскага раёна, вось ужо 15 гадоў выкладае беларускую мову і літаратуру ў Лідскім педагагічным вучылішчы, ён вопытны педагог, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, паэт (аўтар зборніка вершаў "Скрыжаванне", выступае ў друку з літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі, неадназоава выступаў па радыё і тэлебачанні), краязнаўца (з'яўляецца вднным са стваральнікаў у Лідскім педвучылішчы музея культуры і асветы Лідчыны), дзеяч адраджэнскага руху (з 1989 года па 1997 год з'яўляўся старшынёй Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны), адзін з заснавальнікаў і выдаўцоў газет "Голас з Ліды", "Народная трыбуна", актыўнага арганізатара пабудовы ў Лідзе другога па ліку пасля Полацка помніка Ф.Скарыну (адкрыццё адбылося 25 ліпеня 1993 года, скульптар Валяр'ян Янушкевіч).

З павагай –

Аляксандр Віктаравіч Балмацэнкаў, загадчык дашкольнага аддзялення Лідскага педвучылішча, Сябар ТБМ імя Ф.Скарыны.

## Мартыралог ТБМ

### за 1997 – 1999 гады

1. **Адамовіч Антон**
2. **Арсеннева Наталля**
3. **Карпенка Генадзь**
4. **Ватацы Ніна**
5. **Гайдук Мікола**
6. **Жак Віктар**
7. **Каладзінскі Міхаіл**
8. **Карачун Юры**
9. **Луцкевіч Лявон**
10. **Матусевіч Ян**
11. **Радкевіч Яўген**
12. **Рамашок Міхась**
13. **Сокалаў-Кубай Генадзь**
14. **Сяркоў Іван**
15. **Трухан Мікалай**
16. **Шкраба Рыгор**





# Білінгвізм у галаве — трасянка на языку

Шмат гаворана пра тое, як згубна ўплывае афіцыйнае двухмоўе на чысціню і на статус беларускай мовы. Але ёсць і адваротны бок медаля…

Здабалася б, у нашай дзяржаве з прарасейскімі ўладамі і культурнай палітыкай расейскай мове нічога не пагражае. Але ў рэчаіснасці расейска-беларуская моўная мяшанка ў паўсядзённым жыцці псуе абедзве мовы. Як ні дзіўна, атрымліваецца так, што і беларуская мова аказвае свой "разбуральны ўплыў" на "великий и могучий"!

Каб пераканацца ў гэтым, трэба ўважліва пачытаць газеты, якія выходзяць у нашай краіне на расейскай мове ці на дзвюх мовах. Не будзем заглядаць у афіцыйную прэсу, а спынімся на недзяржаўных выданнях…

Напрыклад, у "Музыкальной газете" № 12 (126) 1999 чытаем: *" К тому времени ваш автор уже с большего знал творчество "Гражданской обороны"."* Чым жа ёсць гэтае ***"с большего"***, як не бязлітаснай калькай з беларускага прыслоўя ***"збольшага"***?

Ці зазірнём у "Народную волю": *"На праздничном кирмаше можно было выпить, закусить, послушать музыку, полюбоваться на городскую милицию..."* (№ 61 (643)' 1999); *"Невозможно представить, что мы больше никогда не увидим его могучую постать, не услышим его голос..."* (№ 62 (644)'1999). Ні ***"кирмаша"***, ні ***"постати"*** ў расейскай мове няма: перабраліся яны ў расейскамоўныя тэксты з мовы беларускай.

А вось прыклад з газеты " Імя" (№ 15 (197)' 1999): *" До последнего момента – начала бомбардировок – официальный Белград ставился к теневому правительству Косово достаточно спокойно..."* Памылка відавочна зроблена з-за блытаніны са словам ***"относиться"***, якое ў розных сваіх значэннях мае ў беларускай мове розныя адпаведнікі – і ***"датычыцца", "мець дачыненне"*** , і ***"ставіцца"***. Гэтая памылка, дарэчы, сустракаецца і ў беларускамоўных тэкстах, калі пішуць, ***"адносіцца"*** – *"ён добра адносіцца да яе..."* – там, дзе трэба ўжыць ***"ставіцца"***.

… Прыкладаў такіх можна пазнаходзіць яшчэ шмат. Білінгвізм у галаве – трасянка на языку, — можна зрабіць выснову. І смешна, і сумна робіцца, калі чытаеш і чуеш такія "перлы" – гібрыды, як запрашэнне **"пасетить" баню "Лазня"** Была такая рэклама на менскім "8 канале". Добрая назва для лазні!. Або абвестка па радыё пра тое, што **"открывается рынок "Кирмаш"**, як надпіс **"Мини – кафе "Свитанок""** – даўно ўжо месціцца яно на сталічнай Кастрычніцкай плошчы, і толькі нядаўна назву прадублявалі беларускай – **"Міні – кафэ "Світанак""** – але застаўся і недарэчны **"рускі" (?!)** варыянт…

… У чым жа карані нашай праблемы? У няправільным выкладанні абедзвюх моў у школах, ВНУ: ці ў ненармальнай для чалавечага розуму сітуацыі двухмоўя, якое вядзе да "падваення свядомасці і памылак у маўленні? Ці ў чымсьці яшчэ? Цяжка сказаць … Але няўжо заўсёды нашае маўленне будзе хворае на трасянку?!

***Марыя Грамыка,***
***г.Менск.***

# Дзеці ў вялікай палітычнай гульні

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь працягвае несупынна здзіўляць не толькі школьнікаў, але і іх бацькоў.

Яшчэ ў нашай памяці застаўся мінулагодні конкурс, дзе старшакласнікі асэнсоўвалі значэнне 80-годдзя са дня ўтварэння Турэцкай Рэспублікі. А вось тое, што ў тым жа 1918 годзе была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка нашыя школьнікі ведаць не павінны.

Зараз палітычная сітуацыя іншая. Ідзе аб'яднанне Беларусі і Расеі ў адну саюзную дзяржаву. Працэс ідзе павольна і з цяжкасцямі. Нават сам прэзідэнт РБ адзначыў, што расейскі бок іншыя дамовы выконвае часткова, іншыя не выконвае зусім.

А вось чыноўнікі з міністэрства адукацыі бачаць сябе ў аб'яднанай дзяржаве і,як могуць, калечаць дзіцячыя душы.

Набліжаецца да завяршэння сярод вучняў 8-11 класаў конкурс сачыненняў "Расея і Беларусь – браты і славяне".

Мерапрыемства завершылася на раённым этапе і лепшыя працы накіраваны ў вобласць, адтуль шлях у сталіцу.

Сачыненні, вядома, пішуцца па-расейску, бо як параілі дзецям настаўнікі, лепш за ўсё, калі твор будзе ў форме ліста свайму сябру з Расеі. Канешне, расейскія браты – славяне па-беларуску чытаць не ўмеюць.

Ініцыятыва гэтага конкурсу выключна за беларускім бокам. Хоць па-праўдзе кажучы, калі аб'яднанне раўнапраўнае, то расейскае міністэрства адукацыі магло б прапанаваць удмурцкім школьнікам-"славянам" напісаць лісты сваім сябрам у Беларусь па-беларуску. Нажаль у Расеі да такога не дадумаліся.

Беларускія чыноўнікі ад адукацыі проста ўводзяць у зман нашых дзетак. Расея – дзяржава федэральная і шматнацыянальная. З славян там, бадай, што адны рускія. А другія народы і народнасці адносяцца да іншых этнічных груп.

Сказаць, што татарын, калмык, інгуш ці ненец славянін, значыць проста паказаць сваё невуцтва. Весці з імі гаворку пра нацыянальныя славянскія гонар і годнасць, ці адраджэнне славянскай культуры і мовы могуць параіць толькі беларускія чыноўнікі ад адукацыі.

***Язэп Палубятка.***

# Беларуская мова на беларускім радыё

Нашай, Светлагорскай арганізацыі ТБМ, як і большасці іншых, у існуючай у краіне грамадска-палітычнай сітуацыі, хваліцца асабліва няма чым. Нас, актыўных сяброў нямнога – 28 чалавек. Нажаль, шмат хто з тых актывістаў ТБМ, якія па сутнасці, стваралі арганізацыю ў нашым горадзе, цяпер перасталі размаўляць па-беларуску, саромеюцца сваёй былой актыўнасці ў гэтай справе. Мы іх не асуджаем, жыць жа неяк трэба, вось і змяняюцца погляды ў адпаведнасці з "генеральнай лініяй".

Ну, ды бог з імі.

У нашым горадзе дзейнічае філія Беларускага Дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. У мінулым верасні конкурс сярод паступаючых у ліцэй склаў 2 чалавекі на месца, бо магчымасці прыёму ў дзевяты клас ліцэя абмежаваныя.

Пры непасрэдным удзеле актывістаў ТБМ у горадзе створаны маладзёвае аб'яднанне "Крэсіва" і Культурна-асветніцкае таварыства імя Сцяпана Некрашэвіча. Арганізацыя актыўна удзельнічае ва ўсіх грамадскіх мерапрыемствах адраджэнскага характару: маладзёвых летніках, экспедыцыях, семінарах, арганізацыі канцэртаў (лістапад 1998 г. – канцэрт А. Мельнікава), збору подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

Сябра нашай раённагарадской Рады Мікола Бусел плённа працуе над стварэннем беларуска-іншамоўных слоўнікаў. Распрацаваны праект стварэння "Вучэбнага дапаможніка для вучняў старэйшых класаў па практычнай псіхалогіі", пададзена заяўка на атрыманне фінансавання.

Зараз сярод нашых недабразычліўцаў распаўсюджана меркаванне аб непапулярнасці беларускай мовы сярод большай часткі жыхароў Беларусі і, нажаль, гэта адпавядае рэчаіснасці. А чаму так адбываецца? Як спрыяюць папулярызацыі беларускай мовы беларускія ж электронныя сродкі масавай інфармацыі – радыё і тэлебачанне? Бо ўплыў якраз гэтых сродкаў, якія трывала ўвайшлі практычна ў кожны дом, пераацаніць цяжка.

У 94-96 г.г. мною было праведзена просценькае даследванне: колькі ж беларускіх,рускіх і песень на іншых мовах гучаць па абедзвюх праграмах беларускага радыё? Вынік атрымаўся не на карысць беларускіх песень. Інфармацыя аб гэтым была зроблена мною на Канферэнцыі аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі ў красавіку 1996 года.

Цяпер мяне зацікавіла – колькі ж часу гучыць беларуская мова, а колькі руская па першай і другой праграмах беларускага радыё?

З 29 сакавіка па 14 красавіка ў розныя часы сутак ад 6-ці да 24-х гадзін, на працягу 26 гадзін у суме праслухоўваліся 1-я і 2-я праграмы беларускага радыё з фіксацыяй часу гучання на гэтых праграмах беларускай і рускай моваў.

Вынікі гэтага простага даследвання наступныя:

1 – я праграма: Беларуская мова гучала 8,58 гадзіны з 26, або 33,02% усяго часу праслухоўвання. Руская мова гучала 13,3 гадзіны або 51,9% усяго часу праслухоўвання. У сярэднім за 1 гадзіну беларуская мова гучала 19,8 хвілін, руская 30,7 хвіліны. З 26 гадзін на працягу 8 даўжэй гучала беларуская мова, а на працягу 18- руская.

Мінімальнае на працягу гадзіны, гучанне беларускай мовы – 6 хв.20 сек. Максімальнае – 44 хв.25 сек. Для рускай мовы мін-40 сек. Мах-48хв.12 сек..

На працягу 4, 12 гадзіны з 26 гучала музыка без словаў або песні на іншых мовах.

2-я праграма: Беларуская мова гучала 8,21 гадзіны, або 32,2% усяго часу праслухоўвання, руская мова – 7,5 гадзіны або 29,4% часу праслухоўвання. У сярэдзнім за 1 гадзіну беларуская мова гучала 19, 32 хвіліны, руская – 17,7 хвіліны. З 26 гадзін на працягу 15 даўжэй гучала беларуская мова, на працягу 11- руская.

Мінімальнае, на працягу 1 гадзіны гучанне беларускай мовы – 21 сек. Максімальнае – 32 хв.52 сек. Для рускай мовы мін-0 /4в./, мах-56хв.16 сек. Адсутнасць рускай мовы ў эфіры у 4-х назіраннях было у музычных праграмах дзе абвесткі рабіліся на беларускай мове. На працягу 10,29 гадзін гучала музыка без словаў, або песні на іншых мовах.

Праведзеныя назіранні сведчаць аб тым, што на беларускім радыё беларуская мова не толькі не мае дамінальнага стану, але адсунута на другія, так бы мовіць, ролі. На самай справе мы – беларусы не маем ніводнага па-сапраўднаму беларускага канала.

Гэтую сітуацыю неабходна будзе тэрмінова выпраўляць калі ўладу на нашай Радзіме атрымае сапраўды БЕЛАРУСКІ УРАД, калі Беларусь на справе, а не на паперы скіне каланіяльную залежнасць! Тады і мова БЕЛАРУСКАЯ запануе на СВАЁЙ ЗЯМЛІ!

Спадзявацца на гэта дае надзею мой уласны досвед. Я ўсюды і з усімі на тэрыторыі Беларусі размаўляю толькі па-беларуску. І, натуральна чую рэакцыю суразмоўцаў і выпадковыя заўвагі людзей на маю беларускую гаворку. І, прыкладна 98% водгукаў – добразычлівыя, і толькі 2% абвінавачванне ў нацыяналізме. І то за апошнія 2 гады такіх водгукаў ужо не чуваць. І гэта вельмі добры знак – людзі, нават тыя, хто дрэнна ставіцца да беларускай мовы сваіх меркаванняў не выказваюць. Паціху прывыкаюць да таго, што беларуская мова ў Беларусі – гэта натуральна.

***Вадзім Болбас – старшыня Рады Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны.***

# Ліст у "Пагоню"

***Добры дзень, спадар Станіслаў!***

*Летась у газеце "Пагоня" быў выдрукаваны Ваш артыкул "Беларуская шляхта і БНР".*

*Тады, уражаны свежасцю думкі артыкула, я напісаў водгук. "Пагоня" пэўна, не палічыла патрэбным яго друкаваць…*

*Мне здаецца , што ў тым маім водгуку ёсць нешта і вартаснае. Таму дасылаю копію таго водгуку Вам у "Наша слова".*

*Калі палічыце патрэбным надрукаваць – калі ласка.*

*З павагай –*

*Зміцер Цехановіч.*

*Менск, 22.03.99г.*

**Добры дзень, паважаная "Пагоня"!**

З вялікай цікавасцяй прачытаў у нумары за 19 сакавіка 1998 г. артыкул Станіслава Судніка " Беларуская шляхта і БНР".

Так, самы непасрэдны ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла беларуская шляхта. І гэта быў натуральны крок беларускіх патрыётаў да беларускай дзяржаўнасці.

Такім жа натуральным патрыятычным крокам быў і актыўны ўдзел праваслаўнай шляхты Случчыны ў Слуцкім збройным чыне 1920 г. – у абарону Беларусі.

Чыннасць беларускай шляхты ў пераломныя моманты гісторыі нашай краіны пачатку XX стагоддзя стала магчымай толькі таму, што лепшая частка беларускага шляхецтва заўжды трымалася сваіх каранёў.

Навязаны нам звонку штамп пра суцэльную сялянскасць беларускай нацыі ў"дооктябрьский период" (гэта значыць, да 1917 году), пра "простасць" і "мужыцкасць" беларускай мовы, ніколі не адпавядаў сапраўднасці. Аб гэтым сведчаць гістарычныя факты.

**Так, згодна з перпісам насельніцтва 1897 года, на тэрыторыі тагачаснай Беларусі са 153 тысячаў прадстаўнікоў саслоўя дваран 43,3 працэнта (!) прызналі роднай мовай беларускую** (гл. "Весці АН БССР", серыя грамадскіх навук, № 5, 1986г, с.94). Удумаемся! Амаль палова дваранства Беларусі 1897 года, знясіленай польска-расейскай экспансіяй і запалоненай наплывам чужога чынавенства, наляцелага "в Северо –Западный край на ловлю счастья и чинов", амаль палова дваранства той Беларусі назвала роднай мовай мову беларускую! Бо: **беларускай шляхце заўсёды балела роднае, крэўнае.**

**У кнізе "Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I"** (СПБ.,1890г.) гісторык мінулага стагоддзя П.Баброўскі згадвае, што ў 20-я гады XIX стагоддзя ў тагачаснай Беларусі ўтварылася партыя, на чале якой былі прафесары Віленскага унівесітэта, што марылі аб адраджэнні беларускай мовы, на якой быў выдадзены Літоўскі Статут. Сярод чальцоў згаданай партыі трэба назваць Ігната Даніловіча – прафесара права, даследчыка заканадаўчых і летапісных помнікаў Беларусі, Антона Марціноўскага – выдаўца і публіцыста, але найперш – Міхала Баброўскага – аднаго з першых беларускіх скарыназнаўцаў, які паходзіў з даўняга беларускага шляхецкага роду.

А вось яшчэ адзін факт, які сведчыць пра тое, што сапраўды беларускае шляхецтва мела гонар, свой, беларускі. У 1834 годзе выхадзец з сям'і беларускага шляхціча вёскі Янаўшчына Гарадзенскай губерні Ігнат Кулакоўскі ў запісцы на імя ўрада і міністра народнай адукацыі Расеі пераканаўча абгрунтаваў неабходнасць выкладання ў навучальных установах Беларусі яе гісторыі, а таксама – беларускай мовы ў яе дыялектах. Але ў Расейскай імперыі былі свае погляды на адукацыю беларусаў: у 1840 годзе царскім указам была забаронена не толькі беларуская мова, але і сама назва Беларусь…

А згадайма цэлую эпоху "ліцьвінства"! Пакаленні беларусаў – шляхціцаў, выхаваныя ў польскай мове падчас апантаннай паланізацыі, дарэчы, стымуляванай пэўны час нават уладамі царскай Расеі, так і не згубілі сваю беларускую (ліцьвінскую, як казалі ў даўніну) душу… Гераічны Тадэвуш Касцюшка ("нарадзіўся я ліцьвінам"…), талент сусветнай велічыні Адам Міцкевіч ("Літва, мая Айчына"…), Ян Чачот (беларускія вершы Чачота станавіліся народнымі песнямі!), Ян Баршчэўскі (памятаеце ягоную "Беларусь у фантастычных апавяданнях"?) – усё шляхціцы, беларусы – ліцьвіны, шчыра закаханыя ў сваю Радзіму. Варта нагадаць прамоўленае Адамам Міцкевічам у 1840 годзе ў знакамітай парыжскай Сарбоне: ***"На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай… гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек: гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана.***

***У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю…"***

Як бачым, лепшая частка беларускага шляхецтва заўсёды цаніла і берагла здабыткі беларускай культуры, цаніла і берагла поруч з іншымі пластамі беларускага народа, бо была крывёй ад крыві ягонай.

А ці ж нам, беларусам не захаваць сваёй спадчыны сёння?!?.

Мы маем сваю дзяржаву, багацейшую культуру і імя нашае запісана ў стагоддзях.

Дык, жыцьмем жа па-беларуску годна на гэтай Зямлі, бо яна нам дадзена Богам.

***Зміцер Цехановіч.***

# МОВА — ГЭТА АДЗЕННЕ ДУШЫ

Што і казаць, пра нашу беларускую мову напісана шмат артыкулаў, кніжак, на ёй праведзены навуковыя доследы, гісторыя нашага краю. складзена безліч песень, казак і легендаў, фальклор, як невычэрпная крыніца духоўнасці чалавека, народа. І прадаўжаем пісаць, і трэба пісаць, гаварыць, даводзіць да думкі і сэрца людскога, што беларуская мова гэта твая, беларус, мова, Богам дадзеная табе, таму беражы яе, шануй, не давай у крыўду нікому. Без мовы сваёй ты ніхто і жывеш як набяжыць.

Я напісаў: "Без мовы сваёй ты ніхто.." І ў адказ пачую: "Як гэта так ніхто? Я чалавек, як і іншыя, а на якой мове гаворку вяду – якая каму справа. Абы мы разумелі адзін другога. Ну, так здарылася, што мы забыліся беларускую мову. Такі час быў. Не мы адны. Не вучыць жа нам яе, як у першым класе. Тут і без мовы турбот хапае. Жыць жа трэба…"

Што тут скажаш. Трэба жыць, яшчэ як трэба. Трэба і дзетак гадаваць і старых дагледзець. Толькі, як жыць? Пайсці на работу, атрымаць, што дадуць, прыйсці дахаты, паглядзець тэлевізар выпіць шклянку самагонкі і легчы спаць. І так штодня? А думаць, вызначаць свой лёс, меркаваць шчаслівы ты ці не, добрыя ці дрэнныя людзі вакол цябе, нарэшце, хто ты сам, дзе тваё месца сярод другіх: сяброў і знаёмых. Ці думаў ты, беларус, чаму ў паляка свая мова ёсць, а ў цябе няма, украінец гаворыць на ўкраінскай, рускі на рускай, француз на французскай, чаму ва ўсіх ёсць, а ты сваёй не маеш. Больш таго, саромеешся яе, калечыш, не ведаеш хто тваe продкі. Што ты скажаш сваім дзецям, а як пастарэеш – унукам, калі яны спытаюць: дзядуля, а чаму ты на сваёй мове не гаворыш, што яна забароненая ці непрыгожая? Чаму ва ўсіх ёсць, а ў нас няма, чым мы горшыя за іншых і чаму ў нас не так як ва ўсіх? Дзе адказ шукаць будзеш? Вінаваціць кагосьці станеш? Гэтаму то мы навучыліся. А спытаць то спытаюць, абавязкова спытаюць. Тым, што так здарылася, не адхрысцішся. У нас, беларусаў, ужо, як кажуць, у сэрца ўелася, што, як ёсць, так і добра, як ска-залі, так і рабіць будзем і прычым тут мы? Цудоўна! Усе вінаватыя, толькі не я. Я добры, паслухмяны, што кажуць, тое і раблю. Што яшчэ трэба? Я ж не адзін такі, нас шмат. Дык урэшце-рэшт хто ж ты такі, беларус? Які ты чалавек, чым запоўнена сэрца тваё? Які змест думак тваіх, памкненняў, дзе і як ты шукаеш шчасця сваё і ці ведаеш ты, якое яно ёсць і якім павінна быць? Якая адметнасць твая сярод многіх народаў свету? Дзе Радзіма твая і чым яна вызначаецца?

Я не маю на ўвазе ўвесь шчыры і працавіты, паслухмяны беларускі народ. Я схіляю галаву перад ягонай гісторыяй, ягоным гераізмам, працавітасцю, гасціннасцю і дабразычлівасцю. Я люблю яго і ганаруся тым, што я беларус. І мне да болю ў сэрцы шкада, што мой народ апынуўся над безданнем страшэннай бездухоўнасці, безкультур'я, апусташэння душы. Засну духоўна, апусціў рукі, згубіў надзею, веру ў сілы свае, заблытаўся ў хітраспляценні духоўных жыццёвых дарог.

А што рабіць? Дзе выйсце? Ці ёсць яно, а калі ёсць, то дзе і якое?

Я веру Нілу Гілевічу пра тое, што мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі. Толькі дарога нашая не будзе выслана кветкамі, чырвонымі дыванамі. Спатрэбіцца нямала сілаў і гераізму, адвагі, прымусу над самім сабою каб займець, набыць, вярнуць у сэрцы і думкі свае, сваіх братоў і сясцёр, дзяцей і ўнукаў тую пачуццёвую адметнасць, гонар і годнасць, якая вызначае адметнасць адной нацыі ад другой.

Мы кажам трэба любіць Радзіму і паспрабуй скажы, што ты яе не любіш і ў сэрцы не маеш. Пакрыўдзіцца, у суд заяву напіша, міліцыянта пакліча. Зняважыў, а як жа інакш? На самой жа справе мы не любім яе, Радзіму нашу. Мы ж не ведаем, што гэта такое. Скажуць: Радзіма ды і ўсё, што тут незразумелага. А калі папрасіць каб чалавек расказаў пра сваю Радзіму? У лепшым выпадку пачуем: там, дзе нарадзіўся, там і Радзіма. А калі нарадзіўся ў самалёце, на караблі? Што тады, карабель твая Радзіма? Ці самалёт?

Бывае чуеш: Беларусь для мяне стала другой Радзімай. Гэта ж толькі ўмоўна. Дзвюх Радзім не бывае і быць не можа так, як не могуць дзве жанчыны нарадзіць адно дзіцё. Кожная па аднаму – могуць, удваіх адно не могуць. Як мама, так і Радзіма ў кожнага чалавека адна і толькі адна. На свеце няма чалавека без Радзімы, але ёсць людзі, якія не маюць пачуцця сваёй Радзімы, не ведаюць яе. Пачуццё Радзімы пачынаецца з маленства, з мовы, з першых словаў сыночка, ці дачушкі. Слова ж мае адпаведны змест, яно ж утрымлівае ў сабе паняцці добрага і злога, прыгожага і непрыгожага, нараджае думку.

Па якіх прыкметах можна падзяліць людзей свету? Па колеры скуры, па форме твару? А якая справа да таго, які колер скуры? А так падзялялі, нажаль, і цяпер падзяляюць. Знішчалі цэлыя народы. А за што?

Людзі падзяляюцца перш за ўсё на мужчын і жанчын, старых і маладых і па генетычных прыкметах, якія каранямі сваімі зыходзяць да глыбокай старажытнасці пэўнага этнасу. Вось тут чалавек не можа нічога ні паправіць, ні змяніць. Так наканавана Богам, прыродай. Гэта аснова. Выходзіць, што Радзіма – гэта пэўная супольнасць пэўнага народа, ягоная далёкая мінуўшчына і сённяшняе. Гэта прызнанне і памяць продкаў. У кітайца свая сацыяльна-генетычная структура, свая песня, свая мова, звычаі, сімвалы, свой Бог, нарэшце, кліматычныя ўмовы, свая зямля, якая дае яму адметную ад беларускай ежу, адзенне, у француза свая і г.д. У такім разе, калі ты беларус, англічанін, француз, то з гэтай сваёй прыналежнасцю да адпаведнага этнасу ты нічога зрабіць не зможаш. Ты нарадзіўся такім. Ты можаш быць французскім, польскім, кітайскім беларусам, толькі не кітайцам, а беларусам. Значыць, памяць продкаў тваіх, зямля, на якой жылі яны, ягоная супольнасць, якая аб'яднаная сваёй мовай, звычаямі, сімваламі, веравызнаннем, і ёсць твая Радзіма. А ці ёсць у сэрцы тваім пачуццё гэтых высокародных паняццяў, ці чуеш ты іх, нарэшце, ці ведаеш ты усё гэтае багацце, спавітае чыстай беларускай духоўнасцю. Калі ведаеш, то добра, а калі не, то тады як можна любіць тое, чаго не маеш у сэрцы, чаго не ведаеш, да чаго не імкнешся? Я маю на ўвазе нашу мову, як адметную гукавую сістэму, якая яднае і сцвярджае адметнасць нацыі, яе характар і псіхічны склад. Калі гэтага нічога няма, то што там у сэрцы тваім?

Я аднойчы спытаў у студэнткі: " У цябе крыжык такі прыгожы. Ты ў Бога верыш?

— Калі па праўдзе, то не. Многія цяпер з крыжыкамі. У царкву хадзіла, але ўсё дарэмна.

— А Радзіму ты любіш?

— Я любіла яе, але не ведала што. Вёску сваю любіла і люблю, а пасля вашай лекцыі аказалася, што адной маёй вёскі малавата. Думала, што я і сапраўды духоўна багатая, а на паверку аказалася, што гэта не зусім так. Балюча, крыўдна.

Нам, на маю думку, пісьменнікам, паэтам, навукоўцам, філосафам трэба карэнным чынам змяніць кірунак прапаганды беларускай мовы, нам трэба акцэнтаваць сваю ўвагу на абуджэнне ў людзей пачуцця самасвядомасці такімі сродкамі і так, каб наша слова будзіла думку ў людзей, каб яно ставіла перад кожным адно пытанне: хто ты ёсць такі? Трэба зрабіць так, каб чалавек сам шукаў на гэтае выключна складанае пытанне адказ. Бо ніхто не хоча быць нікім, гэта страшна. Галоўную ўвагу трэба звярнуць на выкладанне беларускай мовы ў школах, у нашых ВНУ, асабліва тэхнічных. Мы не маем маральнага права, мы марна трацім час, калі перакладаем у ВНУ студэнту граматычныя формы падручніка сярэдняй школы, а аспіранту тым больш. Аспірант вучыў мову ў школе, у ВНУ. А ў аспірантуры яму зноў уводзяць у вушы чаргаванне зычных і правапіс галосных. Гэта аб'ектыўна выклікае адмоўныя эмоцыі ў будучага вучонага да мовы, спачуванне ў бездапаможнасці выкладчыка.

Разумным было б Мінадукацыі стварыць адпаведную групу з мовазнаўцаў, гісторыкаў і першнаперш філосафаў для распрацоўкі адпаведных праграмаў, як для студэнтаў, так і для аспірантаў – будучых кандыдатаў, прафесараў, акадэмікаў – эліты нацыі.

Я выказаў асабістую думку, якая заснавана і праверана мной на практыцы ў Беларускай палітэхнічнай акадэміі на працягу шасці гадоў. Беларуская мова у нас выкладаецца па спецыяльнай праграме ў аснове якой не толькі дасканалае веданне мовы аспірантам. У нас мова разглядаецца як пэўная знакавая і гукавая сістэма, яе заканамернасці, вызначаецца яе месца сярод іншых моў народаў свету, яе аб'ектыўная прыналежнасць да беларускага этнасу, нацыі, духоўнасці, культуры чалавека. Толькі гэта не значыць, што наша мова лепшая, а чужая горшая. Для кожнага народа кожная мова з'яўляецца калыскай, багатым і лёгка ранімым адзеннем душы. Апрануць жа душу любой нацыі ў чужую моўную вопратку практычна немагчыма. Яна ёй не да твару, яна ёй не падыдзе. Такую вопратку не пашые ні адзін кравец свету.

***Анатоль Шастаковіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт старшыня ТБМ БДПА.***

# Трэба ісці з жывым словам да народа

“Братцы мілыя, дзеці Зямлі – маткі нашай”! – такімі словамі Ф.Багушэвіча хачу я звярнуцца да ўсіх чытачоў газеты. Мова наша мае такую Боскую сілу, якая нясе ў сабе столькі любові і замілаванасці, што яе не хопіць яшчэ не на адно пакаленне беларусаў. Ёю, нашай мовай, можна абагрэць і спакутаваных. “Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная”, — пісаў Ф.Багушэвіч.

З такімі пачуццямі ідзём мы ў школьныя класы, каб дарыць сваім вучням самы вялікі цуд у свеце, самы маляўнічы падарунак – казачны свет роднай мовы. І паверце … Кожны выкладчык беларускае мовы на Слонімшчыне – гэта патрыёт свайго слова, якому баліць душа за яго лёс роднае мовы. Мы, настаўнікі роднай мовы, зноў з болем і жалем заўважаем, як ганьбуецца наша мова. Яе зноў не пушчаюць у школы, садкі, грамадскія ўстановы. Мала таго, у газетах сустрэнешся з хлуслівымі, ліслівымі словамі газетчыкаў, якія крычаць, што праблем з моваю няма. Мы ж, настаўнікі, любім сваё крэўнае слова, яно для нас, як першае непаўторнае каханне, — на ўсё жыццё.

Але і ў гэтым годзе, і ў мінулым навучальным годзе мы так і не змаглі дапамагчы тым, бацькам, якія хацелі аддаць сваіх дзяцей у першы беларускі клас. Заяў было 10-12 на школу ад бацькоў, а каб адкрыць беларускамоўны клас, трэба значна больш. Я выражаю думкі настаўніцтва, а яно, паверце, вельмі законапаслушнае. Вось чаму нам патрэбны такі закон, які б быў прыняты ў Міністэрстве асветы і дазваляў ствараць беларускамоўныя класы хаця б колькасцю да 15 чалавек. На гэты з'езд я прыехала з Белай Аленай Анатольеўнай, яе дачка ходзіць у нашую школу. Гэтая жанчына на бацькоўскіх сходах заўсёды змагаецца за тое, каб дачка вучылася па-беларуску, але нічога змяніць мы не змаглі, акрамя таго, што яе дачка пайшла ў клас, дзе беларуская мова вывучаецца паглыблена.

Але ўсё роўна, нягледзячы ні на што, справы з беларускасцю ў нас складваюцца лепш, чым тады, 9 год назад калі мы. актывісты роднага слова, хадзілі па кватэрах, пераконвалі бацькоў, даказвалі, каб ішлі у беларускія класы. Зараз не пачуеш знявагі, насмешак у адрас нашай мовы. Але гэты час можа змяніцца, калі не прапагандаваць роднае слова. Вось чаму мы вырашылі ў нашым Слоніме зноў адрадзіць суполку ТБМ, у многім мы дзякуем за падтрымку ў гэтай справе дацэнту Гарадзенскага універсітэта Мельнікаву М.А. Ён стаў той паходняй, якая асвяціла нашыя душы, дала ім энергію, покліч “да сонца і зор залатых”. Для нас, беларусаў, вельмі важна, каб сон нацыі будзіў той прарок, які кліча свой народ клічам “ з крыві і слёз”… Пабольш бы было такіх людзей, бунтароў, на ніве беларускага Адраджэння, як Мікалай Аляксандравіч.

Арганізацыя нашая нешматлікая, да 20 чалавек, але ёсць шмат настаўнікаў, якія нас падтрымліваюць маральна і матэрыяльна, аднак у арганізацыю не ўступаюць. Гэта звязана не толькі з грамадскай пасіўнасцю педагогаў, але і вялікай загружанасцю, калі працы аддаецца ўвесь вольны час. Але мы не адчайваемся. Падтрымаюць педагогі нашую арганізацыю, калі мы актывізуем сваю работу. А дзейнасць сваю ў школах мы бачым так: калі чалавеку адкрыць прыгажосць роднай мовы, ён яе не любіць ужо не зможа. І гэта павінны рабіць тыя, хто кожны дзень мае дачыненне да роднага слова, — настаўнікі роднай мовы. Наш дэвіз у працы “Любоўю пакрыўдзіць нельга”. З такімі пачуццямі мы будзім пачуцці іншых у прапагандысцкай рабоце, у артыкулах, якія змяшчаем у раённым і рэспубліканскім друку. І яшчэ. Мы памятаем словы Сухамлінскага: “Любая педагогіка павінна быць народнай”. І гэтае палажэнне вядомага педагога таксама датычыцца роднай мовы. На якіх ідэалах, каштоўнасцях выхоўваць моладзь, калі сацыялістычная педагогіка адышла ў нябыт? Школа зараз уяўляе сабой вакуум выхаваўчых ідэй, якія можна напоўніць толькі нацыянальнай і рэлігійнай выхаваўчымі ідэямі. Вось чаму мы, настаўнікі роднай мовы, прапагандуем гэтыя ідэі. Пры гэтым нашая праца часта перапляталецца з дзейнасцю тых рэлігійных асоб, якія вядуць службу ў храмах або выдаюць царкоўную літаратуру на беларускай мове.

Так, у Жыровіцкай абіцелі паслушнікам Алегам – паэт Зініч – выдаюцца багаслоўскія лісткі на беларускай мове. З гэтым чалавекам мы падтрымліваем сувязь, наладжваем сустрэчы, бо разважлівасць, памяркоўнасць святых блізкая нацыянальнаму характару беларусаў, спакойнаму, шчыраму, які адклікаецца вельмі чуйна на чужы боль. Пасля такіх сустрэч у дзяцей і дарослых асабліва святлее душа, у гэты момант яна моцнымі ніцямі звязваецца з душой нацыі ў нешта адно, блізкае і дарагое, што мае назву – карані народа, душа народа. І тады нараджаюцца вершы, якія хораша перадаюць спакой і шчырасць гэтай душы. Вось што піша пасля такой сустрэчы вучань 6 класа СШ № 10 г.Слоніма Скурат Дз.

***Вялікдзень.***
***Фарбуюць людзі яйкі,***
***Паставяць пірагі,***
***А ціхія, як зайкі,***
***І кожнаму прыскажуць:***
***—Мілы, дарагі!***
***У храме ўжо малітва,***
***Не чутна сатаны,***
***А ў душы так ціпла,***
***І там чутны званы.***

Так, у кожнага з нас у душы звініць звон, але ён асабліві, трывожны і мілагучны, калі гэты звон датычыцца роднай мовы. Але, як пісаў паэт:

***Хай званы звоняць з жарам…***

І мы, настаўнікі роднай мовы, маем самае непасрэднае дачыненне да таго, каб гэты святы звон разбудзіць у кожным сэрцы беларуса, малога і дарослага, а для гэтага трэба ісці з жывым словам да народа. І ў гэтым прызначэнне інтэлігенцыі, настаўнікаў, — будзіць святое пачуццё беларускасці ў душах, бо нас “чакае маці – Беларусь”.

*З выступу на УІ з'ездзе ТБМ, які мне, на жаль, не ўдалося прамовіць (не хапіла часу).*

***Трафімчык Т.У. Старшыня гарадскога Таварыства беларускай мовы, настаўніца СШ № 10, г.Слонім.***



# Абаронім наш Дом – Беларусь!

**"...Досыць ішлі на чужым павадку мы**
**Доўгія вені без веры ў сябе:**
**Мы ўжо не тыя, — інакшыя думы**
**Выраслі з намі, завуць к барацьбе..."**
**Я.Купала.**

Я рабочы, а не палітык і ніколі ім не буду. Аднак, усё сваё жыццё жыву на Беларусі і не магу заставацца абыякавым да таго, што адбываецца ў нашым Доме. Запланаванае крамлёўскімі "інтэгратарамі" аб'яднанне Беларусі з Расеяй можа мець трагічныя вынікі і не толькі для нашай краіны. На старонках вашай газеты я падаю свой голас у абарону свабоды і незалежнасці нашай Бацькаўшчыны. Усе хочуць жыць добра. Аднак, рэалізаваць гэта сваё святое права магчыма толькі ў свабоднай краіне. Вось так, лёс краіны неразрыўна, арганічна звязаны з дабрабытам абсалютнай большасці яе грамадзян. І разуменне гэтага часта прыводзіла да подзвігаў, самаахвярных учынкаў пры абароне, змаганні за свой Родны Кут. Прапаную ўспомніць некаторыя з іх. Самаахвярнасць 300 спартанцаў старажытнай Элады, якія не хацелі стаць рабамі персаў. Самаспаленне мужнага Яна Палаха, які пратэставаў супраць акупацыі Чэхаславакіі ў 1968 годзе савецкімі войскамі і войскамі іх сатэлітаў.

У свеце не было багатых калоній, калі былі, дык выключэнні з усёй каланіяльнай сістэмы. Толькі свабодная незалежная краіна здольна стварыць дабрабыт для абсалютнай большасці яе грамадзян. Поспехі ў яе сацыяльна – эканамічным развіцці залежаць ад многіх фактараў. Сярод іх – формы ўласнасці, узро-вень прадукцыйных сіл, тэхналогіі, інтэлектуальны патэнцыял народа, прыродныя рэсурсы (часовыя), геаграфічнае становішча і інш.

На дабрабыт таксама ўплываюць палітычны статус рэгіёна, або форма і ступень каланіяльнай залежнасці. Там, дзе каланіяльны "павадок" карацей, там і народ бядней. Ідэальны варыянт – наогул, не насіць ніякага ні павадка, ні ашыйніка.

Гістарычны досвед сведчыць, што толькі вярхавенства, прыярытэт мясцовых інтарэсаў і законаў над любымі іншымі, прыводзіць да росквіту Краю. Са школьных падручнікаў па гісторыі вядома, што Польшча з 1795 па 1918 год і Фінляндыя з 1809 па 1918 былі ў складзе Расейскай імперыі. Цяпер, давайце ў думках параўнаем, як сёння жывуць фіны і палякі і як расейцы. Думаю, што такое параўнанне не на карысць расейцаў і аб гэтым нават не ўзгадваюць розныя "заедыншчыкі", "інтэгратары". У час бальшавіцкай смуты 1917 – 1921 г. фіны і палякі вызваліліся ад расейскай апекі, вобразна кажучы, абарвалі каланіяльныя "павадкі", сталі на шляx самастойнага развіцця і дасягнулі пэўных поспехаў. Дай, Божа, і нам калінебудзь зажыць так, як сёння жывуць фіны або палякі.

Былыя калоніі Расейскай імперыі – Польшча і Фінляндыя ўсяму свету даказалі, што без расейскага апекі, без расейскага "павадка" жыць лепш.

У час развалу Саюза летувісы, латышы і эстонцы таксама пазрывалі расейскія "павадкі". Самастойнае развіццё гэтых прыбалтыйскіх краін дае плён. Сярэдняя зарплата ў Летуве складае 260 долараў ЗША у месяц, а ў Эстоніі – 310 ("Народная воля" за студзень 1999г).

Зусім іншая сітуацыя на Беларусі. Мясцовая каланіяльная адміністрацыя пад уплывам Крамля фактычна адмовілася ад самастойнага развіцця краіны. Яна выбрала халяўна-халуйна-батрацкую ідэю: каб атрымаць сыравіну з Расеі на нейкіх "ільготных?" умовах, яна стараецца ва ўсім дагаджаць кіраўнікам Расеі.

Аб такім "партнёрстве" можа сведчыць інтэрвію Лукашэнкі для газеты "Комсомольская правда" за 24 кастрычніка 1997 года "Супрацьпаветраная абарона (ПВО) каштуе для Беларусі 413 мільёнаў у год. А "ПВО" гэта працуе толькі на Расею. Плюс 1600 кіламетраў граніцы. Гэта агульны рубеж Расеі і Беларусі. Значыць, мы абараняем расейскія інтарэсы. Утрыманне памежных войск – 84 мільёны. Мытня каштуе 96 мільёнаў у год. Чыгуначны транзіт – 144 мільёны долараў, нафтаправодны – 118 мільёнаў долараў, газапровад – 80,3 мільёна долараў. Вось гэта ўсё складзіце і атрымаеце больш аднаго мільярда долараў. Расіяне прызналі 800 мільёнаў доўгу. "Хорошо, мы ведь их не просим, тем более всё равно никто не заплатит. Но 800 миллионов минус 210 миллионов, которые мы должны вам были на 1 января за газ. Остаётся 590 миллионов долларов. Заплатите". Вось, такое "партнёрства", ганебная батрацкая ідэя вывела нашу родную Беларусь на мяжу эканамічнага краху. Сярэдняя зарплата ў нашай краіне ў студзені складала 23 долары ў месяц. Савецкая сімволіка, цэны, чэргі, дэфіцыты сведчаць, што мы жывём у Савецкай Беларусі. Ніякага рэальнага суверэнітэту мы не маем. Ва ўсім адчуваецца расейская апека, расейскі "павадок".

***"...Мы здалёку ўбачылі свабоду***
***І яшчэ не вырваліся з пут..."*** – гучыць у песні на словы Г. Бураўкіна.

З усіх складнікаў дзяржаўнай незалежнасці – палітычнай, юрыдычнай, эканамічнай, вайсковай, фінансавай, інфармацыйнай, культурнай аўтаноміі мы маем толькі адно. Сёння Беларусь з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права. Дэ-юрэ, наша краіна самастойная, Дэфакта, на вялікі жаль, - расейская калонія. Аднак, нават куцая, урэзаная незалежнасць прыносіць нейкія дзвідэнты. Юрыдычны статус Беларусі дазволіў нашым хлопцам не ўдзельнічаць у расейскіх канфліктах. Беларускія маці не атрымлівалі пахаванкі ні з Чачні, ні з Таджыкістану, або з іншай "сферы расейскіх інтарэсаў".

Дык вось, ад рэальнага суверэнітэту мы маем толькі шыльдачку з назваю "Рэспубліка Беларусь". Сёння у нашым Доме фактычна гаспадарыць кіраўнікі Крамля. Мясцовае кіраўніцтва - іх васалы, іх слугі.

За дэмагогіяй "інтэграцыі" – аб'яднання хаваецца імкненне зламаць умоўную шыльдачку, яшчэ бліжэй падцягнуць "павадок" іператварыць Беларусь у расейскую губерню.

Паступовае вынішчэнне культурнай спадчыны беларусаў і перш за ўсё беларускай мовы і замена ўсяго расейскім не выпадкова. Гэта спосаб прысваення усяго нашага. Гэта спроба расейскіх каланізатараў ператварыць беларушчыну ў сваім асяроддзі і абгрунтаваць,узаконіць свае імперскія амбіцыі на нашу тэрыторыю, на нашы багацці. Дзе гучыць расейская мова, там Расея.

Усякае збліжэнне нашай краіны з усходняй імперыяй вядзе народы Беларусі ў галечу. Калі не верыце, дык параўнайце цэны 1996 і цэны 1999 гадоў. Як яны мяняліся у Саюзе Беларусі з Расеяй?

І Ельцын, і Лукашэнка, іншыя "інтэгранты" запрашалі постсавецкія і другія краіны свету далучыцца да Саюза Беларусь – Расея. За няпоўныя тры гады ніхто так і не записаўся. Чаму? Найбольш верагодны адказ.. "Не выгадна". Тады, хіба можа быць выгадным для Беларусі тое, што іншым краінам не выгадна. Атрымліваецца: "Вазьмі нябожа, што нікому не гожа!"

Дабрабыт грамадзян нашай краіны неразрыўна звязаны з лёсам нашай роднай Беларусі, з яе палітычным статусам. І калі мы хочам жыць добра, заможна, неабходна захаваць юрыдычны статус і напоўніць рэальным зместам іншыя складнікі дзяржаўнай незалежнасці.

Вобразна кажучы, даўно ўжо пара парваць ганебны каланіяльны "павадок", стаць гаспадарамі ў сваім Доме. У гэтых славах не "нацыяналізм", як могуць падумаць некаторыя, а эканамічны разлік. Таму, што прэарытэт мясцовых законаў (дзяржаўнасць!) дае магчымасць скарыстаць увесь мясцовы бюджэт, мясцовыя рэсурсы для вырашэння сваіх мясцовых сацыяльна-эканамічных праблем. Адпадае неабходнасць вялікую частку сродкаў аддаваць "старэйшаму крамлёўскаму брату". Успомнім, БССР плаціла Маскве каланіяльных падатак. На словах Лукашэнкі на тэлебачанні Савецкая Беларусь уносіла ў саюзны бюджэт на 3 мільярды долараў кожны год.

Усе сацыяльныя выплаты для грамадзян Беларусі праводзяцца з дзяржаўнага бюджэту. Гэта наша агульная скарбонка і яе абрабаванне – гэта абрабаванне большасці з нас.

Нераўнапраўныя адносіны з Расеяй (аб іх можа сведчыць інтэрвію Лукашэнкі для газеты "Комсомольская правда" за 24 кастрычніка 1997 г. - гэта абкраданне Беларусі, што прыводзіць да абкрадання кожнай сям'і, кожнага грамадзяніна, незалежна ад нацыянальнай, палітычнай, канфесійнай і іншай прыналежнасці. Вось чаму, абарона Беларусі – святы абавязак усіх, хто тут жыве.

Аб'яднанне, інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі можа мець трагічныя вынікі для Еўропы. Успомнім, як пачыналася другая сусветная вайна. Перакройка палітычнай карты Еўропы пачыналася "мірным" – "рэферэндумным" шляхам. Германскі "інтэгратар!" аматар рэферэндумаў Адольф Гітлер спачатку ў 1935 г. "адрэферэндзіў?" Саарскую вобласць, потым у 1938 г. "зарэферэндзіў" Аўстрыю. "Дапамагаючы" судэцкім немцам, увёў свае войскі ў Судэты, а потым акупаваў і ўсю Чэхаславакію. Распаліўшы апетыт захопніка "беснаваты фюрэр" распачаў агрэсію супраць другіх краін. Патуранне А. Гітлеру з боку Чэмберлена і Дэладдзе, а таксама абыякавасць сусветнай грамадскасці да падзей таго часу закончылась страшнай сусветнай бойняй, калі загінула больш 50 млн. чал.

Манаполія на СМІ дае 100%-ю гарантыю на перамогу афіцыйнага рэферэндуму. Так рабіў "арыйскі інтэгратар" А.Гітлер. На гэта спадзяванні і "славянскіх інтэгратараў". Дык вось, магчымая інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі можа справакаваць эскалацыю расейскай агрэсіі на іншыя краіны. На расейскім тэлебачанні Ю.Лужкоў некалькі разоў публічна высоўваў тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Украіны. За магчымым (не дай Бог!) "аншлюсам" Беларусі ахвярамі Расеі могуць стаць (не давядзі Гасподзь!) Украіна, іншыя постсавецкія краіны, потым славянскія і распачнецца страшны армагедон.

Злачынныя планы акупацыі Беларусі – "славянскі аншлюс" зыходзяць ад крамлёўскай карумпаванай крымінальнай вярхушкі. Іх я не звязваю з расейскім народам, які сёння вельмі пакутуе ад крамлёўскай мафіі. І замест "інтэграцыі – акупацыі" я хацеў бы, каб паміж нашымі народамі і краінамі наладжваліся добрасуседскія, раўнапраўныя, партнёрскія адносіны.

Дык вось, калі мы хочам палепшыць свой дабрабыт, нам неабходна абараніць і уладкаваць наш Дом – Беларусь. І спадзявацца трэба перш за ўсё на саміх сябе. У свой час Я. Купала пісаў: ***"Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця – гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе ..."***

Час праявіць нам свае сілы у будаванні новага жыцця для сваёй Бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць годы, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх нашчадкаў, для свайго краю?" Да такога запытання трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. Дык больш самачыннасці, больш смеласці ў будаванні новага незалежнага жыцця".

Жыве Беларусь!

***Галай А. Менск.***

Пункт гледжання

# Гісторыя дала нам шанец

Прайшоўшыя палітычныя падзеі, як у Беларусі, так і ў Расеі, звязаныя з падпісаннем Прэзідэнтамі Барысам Ельцыным і Аляксандрам Лукашэнкам дамовы пра стварэнне саюзнай дзяржавы, выклікалі мноства пытанняў у абодвух народаў, і ў першую чаргу ў беларусаў, якія жывуць не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. І гэта зусім зразумела. Скажам так: Расея гэта ёсць Расея, якая валодае велізарным патэнцыялам, праўда, што хаваць, шмат што страчана..., але тым не менш.

Беларусь жа, якая набыла незалежнасць і суверэнітэт, на думку многіх можа іх страціць. І для гэтага, на мой погляд, ёсць адпаведныя падставы.

Ва ўсякім разе, мяркуючы па Расейскай прэсе, у Расейскай Федэрацыі мала каго хвалюе праблема, звязаная з утварэннем новай дзяржавы. Ствараецца ўражанне, што Беларусь разглядаюць, як суб'ект Расейскай Федэрацыі, а прэзідэнта Лукашэнку, як губернатара і не больш таго.

Так яшчэ летась у часопісе "Камерсангт", а я зазначу, што там публікуюць грунтоўныя артыкулы, пісалася, што не пройдзе і некалькі гадоў, як Менск стане звычайным расейскім губернскім горадам. У такім выпадку абласныя цэнтры, мабыць, стануць гарадамі рэспубліканскага значэння.

Насцярожвае і наступнае. Шмат якія беларусы, у тым ліку і я, што жывуць у Расеі, са здзіўленнем чытаюць і чуюць, што няма такой нацыі, як беларусы, што гэта выдумка бальшавікоў... і не больш таго. Так, вядомы расейскі публіцыст Аляксандр Кротаў наўпрост піша, што на тэрыторыі Беларусі жывуць карэнныя расейцы. Нават некаторыя гістарычныя часопісы разглядаюць гісторыю Беларусі і, характарызуючы яе насельніцтва, пішуць, што няма такой нацыі, як беларусы, а ёсць заходнерасейскае насельніцтва. Ну проста, як у часы Кацярыны Другой.

Пра гэта гавораць і на высокім дзяржаўным узроўні. Так, напрыклад, у нядаўнім сваім інтэрвію па тэлебачанні губернатар Пскоўскай вобласці Міхайлаў наўпрост сказаў, што беларусы – гэта тыя ж расейцы. І каб ён быў адзін.

Пры гэтым усе ссылаюцца на агульныя гістарычныя карэнні, культуру, блізкасць мовы і г.д. Усё гэта так, але ёсць і свае асаблівыя адрозненні. Так, сапраўды ў Кіеўскую Русь уваходзіла частка зямель сённяшняй тэрыторыі Беларусі, але, як вядома, паралельна існавала і самастойнае незалежнае Полацкае княства, якое і стала ядром фармавання беларускага этнасу. Ды і сама тэрыторыя сённяшняй Беларусі, па гістарычных мерках зусім нядаўна ўвайшла ў склад Расеі ў выніку трэцяга, канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе.

Забываюць у Расеі, што сярод верных беларусаў ёсць і каталікі, якія жывуць не толькі на заходніх землях, але і на ўсходніх.

Неяк няёмка нават нагадваць прыхільнікам так званага адзінага народа, што беларусы гэта сфармаваная нацыя, якая сапраўды блізкая, як да расейцаў, так і ў роўнай ступені да украінцаў ды палякаў.

Возьмем яшчэ аспект пра беларускую мову. Калі мы ўжо знайходзімся, лічы, у адной дзяржаве,то ці будзе ў Расеі беларускай мове нададзены статус роўнай з расейскай, як у Беларусі, дзе расейская мова з'яўляецца побач з беларускай дзяржаўнай. Зазначу пры гэтым, што колькасць расейцаў у Беларусі і беларусаў, што жывуць у Расеі, прыблізна аднолькавая.

Ці з'явяцца, напрыклад, у Расеі шыльды на будынках дзяржустаноў на дзвюх мовах. Тут я маю на ўвазе, на расейскай і беларускай. А выкладанне ў школах і вышэйшых навучальных установах беларускай літаратуры, гісторыі Беларусі? Што тут казаць, у Расеі вельмі слаба ведаюць пра Беларусь, не гаворачы ўжо пра яе гісторыю і культуру. Ува ўсякім разе імёны выбітных дзеячоў не знаёмы для большасці расіян. Не ведаюць ні Янку Купалу, ні Якуба Коласа, не кажучы ўжо пра Скарыну.

Возьмем яшчэ адзін аспект. У Расеі ў выканаўчых і іншых органах працуюць беларусы, але ў заканадаўчых органах іх налічваецца адзінкі. Ува ўсякім разе ў нашай Мурманскай вобласці жывуць дзесяткі тысяч беларусаў, але ў абласной Думе толькі адзін дэпутат беларус. Зусім зразумела, што дэпутаты павінны выбірацца не па нацыянальнаму прызнаку, але не улічваць гэты аспект, на мой погляд, у корані няправільна.

Як вядома расейцы, што жывуць у Беларусі прадстаўлены і пры тым у вялікай колькасці, ува ўсіх структурах улады, як выканаўчай, так і заканадаўчай, ды і ў іншых структурах.

Гісторыя дала нам шанец быць народам і ім трэба разумна скарыстацца. Мае апаненты і сябры ў Расеі часта гавораць: "Ужо ж каго – каго, а беларусаў мы паважаем". І адначасова называюць нас бульбашамі, а Беларусь –Бульбакіяй.

Не думаю, што гэта балюча раніць нашы сэрцы. Можна сказаць, што гэта робіцца без злой задумы, што гэта дробязь, але з дробязяў, як вядома, складаецца жыццё.

***Аляксандр Пятрушнікаў***
***г. Манчагорск, Мурманскай вобласці.***

## "Добры вечар, шчодры вечар", або

# Як цётку Лену пагражалі не прыняць у піянеры

### Быль

У вёсцы, дзе нарадзілася мая цётка Лена, дзядзька Сяргей ды мой тата, не надта вызнавалі за свята 1 студзеня – Новы год у сучасым еўрапейскім каляндары. Нават ёлку ў хатах ставілі на тыдзень пазней, прымяркоўваючы яе да праваслаўнага Раства ды да Старога Новага года, або Шчадрухі.

**Распавядае цётка Лена:**

*" У той дзень, перад Шчодрыкамі, мама ўстала вельмі рана. Яна заўсёды ўставала рана. Распаліла ў печы, нагрэла некалькі чыгуноў вады, а потым пабудзіла нас, малых, каб памыць да ўсходу сонца. Яна верыла, што дзяцей перад такім вялікім святам трэба выкупаць на досьвітку, тады яны будуць расці дужыя і здаровыя…*

*А потым увесь дзень нешта гатавала. Мама трымалася старых звычаяў і рабіла ўсё, каб вячэра ў "шчодры вечар" сапраўды была шчодраю, сытаю, багатай. Каб на стале абавязкова стаяла ажно 12 страў. Памятаю, што заўсёды на ім былі вельмі смачныя бліцы, поліўка з грыбамі, халадзец, вінегрэт, каўбаса ("пальцам пханая"), мёд, палядвіца, густы чырвоны кісель з журавінаў (яго елі лыжкамі), тушаныя, разапрэлыя ў печы свіныя рэбры і абавязкова рытуальная куцця з ячневых круп з шкваркамі. Куцця была з усяго гэтага багацця самая нясмачная. Але і есці яе асабліва ніхто не прымушаў, так, дзеля прыліку бралі па лыжцы-другой. Мама шырока расчыняла дзверы, з сеняў у хату ўрываўся клубок марознага пару. Мама нераступала парог і гукала:*

*— Мароз! Мароз! Хадзі куццю есці!..*

*Тым часам тата ( а ён быў вялікі штукар) прыпёс ці з сенцаў, ці з каморкі цэлую вялікую міску … лясных арэхаў. Гэта быў цуд! Ён не казаў, што гэта падарунак ад Дзеда Мароза ці ад Снягуркі. О не! Яшчэ раз паўтару, на пачатку 60-х у нашай вёсцы ніякіх Снягурак ды Дзядоў, што "прыносяць дзецям падарункі, нічые бацькі не ведалі і не прызнавалі. А наш добры, разумны тата ўвечары перад Старым Новым годам цешыў нас арэхамі!"*

Арэхаў мой дзед Ціхан назапасіў яшчэ летам. Дзе і як хаваў ажно да Шчадрухі, не ведала нават баба Ева. А дзед толькі пасміхаўся і казаў, што арэшкі перадала яго паслухмяным дзеткам вавёрачка. Вядома, мой тата нічога не зразумеў пра вавёрачку, ён яе нікалі не бачыў. Бо меў усяго тры гадкі ад нараджэння. Але па арэшкі пацягнуўся: Дайце-дайце! На яго ўзрост то быў вельмі небяспечны ласунак! Але дзед хуценька адсунуў ад стала вуслон, узяў малаток і – тук! Тук! – на табе, Вочык, арэшак-сэрцайка! Тут і Сяргей побач, сваю жменьку расшапіў: "Разбі і мне, тата. Мае малочныя зубы мышка з'ела, а новыя не выраслі…"

А Лена… Ніхто і не ўгледзеў, як дзяўчынка сцягнула з печы валёнкі, ухапіла паліто і хустку і, не зашпільваючы гузікаў, наросхрыст, выскачыла на двор. У вечаровы блакіт, на дарогу, расквечаную зорамі да электрычных ліхтарыкамі. Дзякаваць Богу, ужо тры гады "лямпачкі Ілліча" асвятлялі жыццё калгаснікаў вёскі Жытнавічы…

А вось і дом сяброўкі Веры. Разам з ёю пабеглі да Волі. Ад Волі да Гандзі. Ад Гандзі да …

Гурт рос. Арэшкаў у кішэнях не стала. Але як было весела на вуліцы! Штурхаліся, падалі ў высокі пульхны снег і абдымалі калы на платох: кол – калішча.. Гэтак лічылі – гадалі. Бо гэта ж быў вечар перад Старым Новым годам. І, нават, калі выпадаў каму кол – ніхто не засмучаўся. Хоць, паводле прыкметы, гэта азначала, што дзяўчына застанецца без пары, не выйдзе замуж…

Але скажыце, каго турбуе нейкае замуства ў 10-12 гадоў? Смехата! Таму і валіліся ад смеху проста ў снег!

А потым нехта прапанаваў пайсці ў "шчодрыкі" – гэта значыць пайсці па хатах, вітаючы людзей са святам, пасляваць ім, пажадаць здароўя ды ўсялякіх даброт.

… Нясмела пастукалі ў прамерзлую чужую шыбіну. Нясмела павіталіся:

***Добрый вэчор, шчодрый вэчор!***
***Пану господу! Чы позволытэ пісьню спываты?***
***Ваш дом звысылыты? Спываты?!***

На вялікую радасць дзяцей, спяваць ім дазволілі. Больш за тое, нават у хату запрасілі. У хаце цёпла, спяваць лёгка – мароз не перацінае дух. Якой жа артысткаю паказала сябе пяцікласніца Вера Коўжун! Сціпіана, таямніча, быццам сасонка з лёгкім ветрыкам перагукнулася, пачала і яна:

***В лісы, в лісы сонийко грае…***

Сябры не драмалі – тут жа падхапілі, разгайдалі мелодыю, быццам зашумеў вясёлы зялёны бор:

***Шчодрый вэчір – сонийко грае!***

Далей у песні спявалася, як малады Валодзя (Сяргейка, Адамка…Называлася імя, якое меў хлопец у гэтым доме або ягоны гаспадар) на каня сядае, з канём размаўляе, збіраецца яго або прадаць, або змяніць. А конік просіць не рабіць гэтага, бо ён ого які яшчэ спрытны!

Быў і канфуз.

Але паслухаем цётку Лену:

*"Шчадравалі пад вакном у нашай бабулі. А ведалі толькі адно гэтую песню, што пяецца хлопцу. Яе і пачалі бадзёра. Але дайшлі да словаў, дзе трэба была назваць імя і … спатыкнуліся. Не разгубілася толькі Вера – чысцюткім прыемным голасам яна вельмі выразна вывела:*

***Молодая баба на коня сядае…***

*Гэта было сапраўды смешна! Уяўляеце, старая сівая бабуля сядае на гарачага каня, які "скочыць – Дунай пераскочыць"!*

*Бабулі наша песня, відаць, спадабалася. А можа, прыемна было, што любая ўнучка прыйшла ў шчодрыкі. Я стаяла пасярэдзіне і гэтак ужо старалася прамаўляць кожнае слоўка, каб дагадзіць бабулечцы! Баба Ніна дала нам рубель. Цэлы капітал, як цяпер сказалі б.*

*Мяшок наш таксама разбух ад падарункаў-пачастункаў. Сала, каўбаса, важкія лусты духмянага чорнага хлеба, толькі што спечанага на гарачым чэрані на дубовых лістах, бліны і пірагі.*

*Давалі нам і грошы. Бліскучыя жоўтыя пятакі 1961 года тады, у 1964-ым, выдавалі на вялікія грошы. Пра вартасць жа 15 або 20 капеек і казаць не буду! А такіх манет у нас было некалькі дзесяткаў..."*

А назаўтра прыйшло пакаранне…

Але зноў лепей паслухаць цётку Лену.

*"… Назаўтра ў школьным калідоры на сцяне вісела карыкатура. З акна на гурт дзяцей падалі аладкі. Дзеці былі брыдкія, худыя, з раззяўленымі непрыгожымі ртамі. Яны лавілі тыя няшчасныя аладкі, а з дзіравых торбачак сыпаліся ўніз дробныя манеткі. На манетках стаялі лічбы: 1/2 капейкі, 1/3, 1/4… Называлася карыкатура "Нашы хадакі"…*

*Потым была лінейка. Мінула акурат трыццаць пяць гадоў, а я дагэтуль, як расказваю, адчуваю на ўласнай спіне холад школьнага калідора. Нас паставілі на калені. На ўчарашніх вясёлых шчадроўнікаў узорылася мо трыста вачэй: камсамольцы-васьмікласнікі, піянеры, акцябраты… Гэтыя камсамольцы (ведаю хто) і занеслі дырэктару спіс на тых, хто шчадраваў…"*

Дзеці не маглі, не ўмелі, дый не разумелі, за што трэба асуджаць аднакласнікаў. Ім падказвалі настаўнікі – за шчадраванне. Найболей крычаў дырэктар школы, камуніст і вечны парторг.

Успамінае цётка Лена.

*"Дагэтуль помняцца ягоныя словы, кінутыя на мой адрас:*

*— Ах ты, свіння нямытая! Што, табе есці няма чаго?! У Ціхана сала поўны кубэлак, мёду поўныя вёдры, а ты ў шчодрыкі ходзіш, міласціну просіш, пазорышся! Выдатніца называецца. Мы яе на Дошку гонару, а яна ў папрашайкі запісалася…*

*Піянерважатая, дарэчы, жонка дырэктара школы, падскочыла да Веры і садрала з яе чырвоны гальштук: "Ты недостойна его!" Гальштукі паздымалі з усіх "адступнікаў". Мяне з Колем Пашынскім, самых малодшых, яшчэ не "юных ленінцаў", цвёрда паабяцалі ў піянеры не прымаць."*

Слухаю цётку, дзіўлюся дурнаце з боку, здавалася б, адукаваных школьных настаўнікаў, і хочацца ўсклікнуць разам з паэтам: "О, времена! О, нравы!" Час – вось хто сапраўды мудры вучыцель, ён заўсёды расстаўляе ўсё на свае месцы.

Вырасла цётка Лена, вывучылася, стала паважаным чалавекам.

Дырэктар школы пастарэў, пайшоў на пенсію. Па вуліцы ідзе – ні з кім не вітаецца. У сельскай краме, калі хлеб прывязуць, першы, без чаргі лезе да прылаўка…

Школу, мусіць, таксама хутка зачыняць, бо засталося там дзяцей меней, чым пальцаў на руках…

Важатая, што здзірала гальштукі з шчадроўнікаў, зрабілася цяпер вельмі набожная: у царкву ходзіць, да споведзі, грошы ахвяруе. Нібы грашыма ад ліхога можна адкупіцца…

Маё дзяцінства, мусіць, шчаслівейшае. Я не ведаю, хто такія піянеры, я ніколі не быў піянерам і ўжо не буду. Мне цяжка зразумець, чаму некалі так перажывала з-за таго, што не прымуць у тыя піянеры, мая цётка Лена. Можа, таму, што ёй было ўсяго 10 гадоў?..

Але мне ніколі не прыслала ў падарунак лясных арэшкаў руплівая вавёрачка. Да нас не прыходзяць шчодрыкі… Я не ўмею спяваць ні калядных песняў, ні шчадровак. Аднак, для Архіва Найноўшае гісторыі я запісаў шчадроўную песню, якую спявала мая цётка, на той час вучаніца 3-га класа, разам з сваімі сяброўкамі на радасць усім добрым людзям. Спявала ўвечары, напярэдадні Старога Новага, 1964-га года..

Я запісаў яе так, як гавораць, як пяюць у вёсцы Жытнавічы Пінскага раёна – на палескім дыялекце (дадаю да свайго рукапісу).

Для Архіва запісаў і цётчыну гісторыю.
Юрась НАВАРАЙ,
Вучань 9-га класа "Ф"
СШ №101 г.Менска.
22.12.98 – у самы кароткі зімовы дзень.

Шчадроўная песня, запісаная 22.12.98 ад Алены Наварай, 1954 г.н., г.Менск.

***ШЧОДРЫЙ ВЭЧІР, ДОБРЫЙ ВЭЧІР***

***В лісы, в лісы сонийко грае,***
***Молодэнькій Юра на коня сядае.***
***Шчодрый вэчір, добрый вэчір,***
***На коня сядае.***
***На коня сядае, з конём розмоўляе***
***Шчодрый вэчір, добрый вэчір,***
***З конём розмоўляе.***
***Ой коню-коню, сывый соколу,***
***Чы тэбэ продаты, чы тэбэ змыняты?***
***Шчодрый вэчір, добрый вэчір,***
***Чы тэбэ змыняты?***
***Ны продай мэнэ, ны мыняй мэнэ!***
***Як я скочу – Дунай пырыскочу.***
***Шчодрый вэчір, добрый вэчір,***
***Дунай пырыскочу.***
***Дунай пырыскочу, копытца ны ўмочу.***
***Шчодрый вэчір, добрый вэчір,***
***Копытца ны ўмочу!***

Заканчвалася песня зычэннем:
***Дай, Божэ, за год дождаты!***
***Гэтый ў радосці провэсці!***

Гаспадар звычайна адказваў:
***Дай, Божэ, людкі. Вам тожэ!***

І адорвалі, хто чым мог, шчадроўнікаў (грошы, каўбасы, пірагі).

Калі ў якой хаце не дазвалялі спяваць, шчадроўнікі маглі і падражніцца:
***А ў гэтай хаты ныма што даты.***
***Сучка вырпыцца,***
***Господыня с… садыцца.***

Аднак шчадроўнікі ніколі не ішлі пад вокны той хаты, дзе быў набожчык і не мінула з таго часу году. Жалоба – святое.



**На здымку: бабуля Ева, дзед Ціхан і цётка Лена (1 год і 7 месяцаў)**

*Быль з дадаткамі была дасланая на конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965", арганізаваны Архівам найноўшай гісторыі.*





# 450- ГОДЗЬДЗЕ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## Угодкі выхаду "Малой падарожнай кніжкі" Доктара Ф.Скарыны

Даклад доктара Вітаўта Тумаша на 10-ай сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў верасьні 1972 году

***BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE***
***КААРДЫЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ***
***COMITE BIELORUSSIEN DE COORDINATION AU CANADA***

***2 сакавіка, 1999.***

***Вельмі паважаная спадарыня Лілея Сазанавец.***

***Неяк яшчэ ў мінулым годзе чытала ў "Нашым слове" Вашыя "Віленскія напевы" й тады надумалася выслаць Вам артыкул доктара Вітаўта Тумаша: " 450-ГОДЗЬДЗЕ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ". У артыкуле шмат матэрыялу пра Вільню, пра гістарычную Вільню. Ня мела Вашага адрасу. Сп.Алег Трусаў параіў мне напісаць да Вас па адрас "Нашага слова".***

***Дык вось, набраўшыся сьмеласьці, высылаю Вам, разам з найлепшымі пажаданьнямі, артыкул др. Вітаўта Тумаша. Спадзяюся, зьмест артыкула Вас зацікавіць. Хацелася б захаваць правапіс арыгіналу.***

**1.**

Друк – адзін з найвыдатнейшых вынаходкаў чалавецтва нашага тысячагодзьдзя. Уплыў друку на ўсе галіны людзкога жыцьця аграмадны, яго значэньне для культурна-духовага й цывілізаванага прагрэсу чалавецтва велізарнае. Дзеля гэтага зьяўленьне тэхнікі ў паасобных краёх сьвету ды, асабліва, пачаткі нацыянальнага друку – вельмі важныя падзеі ў гісторыі кажнага народу.

Увосені сялетняга 1972 году прыпадаюць 450-я ўгодкі да выхаду першае друкаванае кнігі на беларускай зямлі. Юбілей гэты некаторых можа й бянтэжыць. Можа паўстаць пытаньне: чаму ізноў гутарка пра ўгодкі друку, калі пяць гадоў таму, у 1967 годзе, 450-я ўгодкі пачатку Скарынавага выдавецтва беларускае грамадзтва ўжо адзначала й за межамі свайго краю, і на сваёй зямлі?

Справа ў тым што піянерская дзейнасьць Францішка Скарыны ў галіне друку праходзіла двума, рознае геаграфічнае лякалізацыі ды рознага гістарычнага значэньня, наваротамі. Выдаваў доктар Скарына кнігі спачатку ў Чэхіі, у Празе, пасьля – у Вільні. У месяцы жнівені 1517 году, з выхадам у Празе першае ягонага друку кнігі ПСАЛТЫРА, быў дадзены пачатак ўсёй Скарынавай выдавецка – друкарскай дзейнасьці. 450-я ўгодкі гэтага, праскага, гістарычнага пачыну выдатнага Палачаніна пяць гадоў таму назад беларусы, — асабліва за межамі свае зямлі, — і адзначылі.

Паколькі, аднак-жа, друкарскую справу доктар Скарына пачынаў далёка ад свайго краю, дык і пачатак выдавецтва ў Празе яшчэ ня быў пачаткам друку на ягонай роднай, на беларускай зямлі. Гэтага доктар Скарына даканаў гадоў колькі пазьней, калі, вярнуўшыся з Прагі, заснаваў друкарню ў Вільні ды там выдаў першую кнігу. Вось 450-я ўгодкі гэтага другога, гістарычна ня менш важнага за першы, друкарска-выдавецкага пачыну доктара Скарыны сёлета й прыпадаюць.

Нам, Скарынавым суродзічам што цяпер за межамі свайго краю, належна адзначыць 450-я ўгодкі друку ў Беларусі ёсьць прычына асаблівая. Што ўгодкі гэтыя прыпадаюць якраз сёлета, выяўлена ледзь колькі месяцаў таму, і дайшло да гэтага ў выніку ахвярнае працы беларускіх замежных навуковых працаўнікоў, тых навукоўцаў, за якімі не стаіць свая дзяржава, яе матэрыяльныя рэсурсы, яе маральнае падтрыманьне.

Як ведама, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ўжо ад гадоў у сваёй навукова-дасьледчай працы шмат увагі прыдзяляе гісторыі пачаткаў беларускага кнігадруку ды, асабліва, вывучэньню жыцьця ды літаратурна-выдавецкай спадчыны доктара Скарыны. У гэтай галіне Інстытут мае важныя адкрыцьці й каштоўныя навуковыя публікацыі. Пад уплывам Скарынаведных дасьледаваньняў Інстытуту й навукоўцы сьвету апошнім часам сталі больш зьвяртаць увагі на захаваныя па бібліятэках і музеях старыя беларускія кнігі.

У выніку, калі прафэсар Ерузалімскага ўнівэрсытэту Альтбаўэр летась у Даніі, у Каралеўскай бібліятэцы Капэнгагі, натрапіў на нявядамы перад гэтым кнігаведам экзэмпляр Скарынавае МАЛОЕ ПАДАРОЖНАЕ КНІЖКІ, дык паведаміў ён аб гэтым пры першай нагодзе кіраўніцтва Беларускае Бібліятэкі й Музею імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Для музэйнае бібліятэкі быў адразу заказаны мікрафільм кнігі. Вывучэньнем яе на падставе атрыманае мікрафільмавае копіі заняўся дырэктар музэю а. Аляксандр Надсон.

МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА што ў Капэнгазе, як выявілася, унікальная. З колькіх усяго ведамых экзэмпляраў гэтае кнігі толькі ў гэтым захавалася ў камплекце апошняя яе частка – Скарынаў каляндар. На падставе ж камплетнага календара можна было ўстанавіць год друку ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКІ, якога да гэтага часу ніхто ня ведаў.

Дагэтуль уважалася, што МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА выйшла з друку пасьля сакавіка 1525 году, па надрукаваньні Скарынам АПОСТАЛА. Цяперж выявілася, што першай надрукаванаю была МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА, ды што выйшла яна гады тры перад АПОСТАЛАМ, бо ў годзе 1522-м. Вось таму ўжо сёлета, а не за тры гады, як дагэтуль думалі гісторыкі друку, 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі й прыпадаюць.

Першая надрукаваная Скарынам у Вільні кніга малая толькі сваім, "падарожным" кішанёвым, у дванцатку, фарматам, але ня лікам бачынаў, якіх у ёй 870. У кнізе памешчаны Псалтыр, праваслаўныя рэлігійныя чытаньні, малітвы, сьпевы, сьвяты ды важнейшыя каляндарна-астранамічныя патрэбныя падарожным, даведкі. Выданьне гэта арыгінальнае, укладу й рэдакцыі самога выдаўца. Як і ўсе іншыя выданьні доктара Скарыны, прызначалася яно не для царквы, не для духавенства, але для людзей "паспалітых" сьвецкіх, для народу.

Скарынава ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА, надрукаваная на першаякаснай трывалай паперы, мае дробны, густоўнага рысунку, шрыфт. Яна багата аздобленая сотнямі ініцыялаў-буквіцаў і заставіцаў, мае дрэварытныя ілюстрацыі ды, рэзаныя таксама ў дрэве, загаловачныя рысункі да паасобных разьдзелаў кнігі. Дык, як і ўсе іншыя выданьні доктара Скарыны, ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА аформленая з друкарска-графічным майстэрствам. Калі ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя на віленскія выданьні Скарыны зьвярнулі ўвагу гісторыкі друку, яны не маглі схаваць свайго захапленьня знакамітым іх друкарскім афармленьнем. Гэта тады Скарынавы віленскія выданьні гісторыкі друку назвалі "славянскімі эльзэвірамі", паколькі яны нагадвалі слаўныя густоўныя вельмі й малым таксама фарматам выдадзеныя кнігі выдатных галяндзкіх выдаўцоў XVII стагодзьдзя Эльзэвіраў.

Пры асэнсоўваньні гістарычнага значэньня першае друкарні трэ не забывацца, што была яна першай ня толькі на землях Беларусі, ня толькі на тэрыторыі ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, але й на прасторы ўсяе Ўсходняе Эўропы. Дык, дзякуючы доктару Скарыну, у галіне друкарства беларускі народ быў першым сярод усіх іншых народаў гэтага абшару.

Важна не забывацца тут тое, што калі друк на эўрапейскім усходзе пачаўся найперш на беларускай якраз зямлі, дык быў гэта ня нейкі прыпадак, ці капрыз гісторыі. Гэта была падзея гістарычна абумоўленая, папярэднім культурна-тэхнічным разьвіцьцём краю падрыхтаваная. Яна толькі праява вядучае тады на ўсходзе Эўропы культурна-цывілізацыйнае ролі беларускага народу.

МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА сёньня вялікая, дбайна перахоўваная, музэйная рэдкасьць. Па бібліятэках Эўропы ведама, пераважна раскіданых часткамі, колькі ўсяго ПАДАРОЖНЫХ КНІЖАК. Гэта адзіныя цяпер сьведкі тае важнае вехавое культурнае падзеі, да якое 450 гадоў таму дайшло ў Віьні у доме найстаршага бурмістра места Якуба Бабіча.

**2.**

Друк на беларускай зямлі зарадзіўся ня ў нейкім правінцыйным асяродку, але, гістарычна зусім заканамерна, у дзяржаўна-палітычным і культурным цэнтры краю, у тагачаснай сталіцы Беларусі й усяго Вялікага Княства Літоўскага, у Вільні. Дзеля гэтага сялетнія скарынінскія ўгодкі друку ня толькі прыгаданьне важнае вехавое падзеі гісторыі культуры беларускага народу. Маюць яны й яскравую палітычную вымову. Угодкі зьвяртаюць увагу, нашую й сьвету, на тую анамалію, што места класыка друку беларускай зямлі, Вільня, дзяржаўны, гаспадарчы й культурна-духовы цэнтр Беларусі на працягу больш паўтысячы гадоў, сяньня, за ўсю сваю гісторыю ўпяршыню, фармальна адрэзаная ад беларускай нацыянальнай тэрыторыі савецкай "дзяржаўнай" мяжой.

"Указам" Масквы Вільня сяньня ўлучаная ў межы Летувіскае ССР. Яна нават ейная намінальная сталіца. Ды й само места ў СССР афіцыйна па-беларуску цяпер не называецца, як спрадвеку, ад часу свайго паўстаньня, Вільняю. Гэта ўжо "Вільнюс"! Насуперак старавечнай народнай традыцыі "Вільнюсам" цяпер празывае места партыйны друк БССР.

Рэч ведамая, што гэтак званыя "дзяржаўныя" межы паасобных рэспублікаў СССР, як правіла, ня межы этнічна-нацыянальныя. Гэта толькі адміністрацыйныя лініі, якімі Масква для сваіх мэтаў і патрэбаў размяркавала сабе прасторы сваіх каляніяльных валаданьняў. На запраўдныя этнічнамоўныя межы зьвярталася пры гэтым увагі мала. Ці раз яны й знарок ігнараваліся. Прыкладам гэтага можа быць хоць бы Смаленшчына, якую ад тэрыторыі Беларускае ССР сяньня аддзяляе "дзяржаўная" мяжа расейская, хоць паабапал мяжы і ў БССР, і ў Смаленшчыне, жыве той самы народ, што спрадвеку гаворыць той самай беларускай мовай.

Як ведама, за межамі Беларускае рэспублікі сяньня, апрача Смаленшчыны ды Вільні, і гэткія бяспрэчна беларускія па мове жыхарства землі як Беласточчына ды Падляшша на захадзе, Дзьвіншчына ды Пскоўшчына на поўначы, Браншчына на ўсходзе. Пра беларускасьць усіх гэтых прастораў згадваць у БССР сяньня небясьпечна. Гаварыць праўду ня можна ня толькі пра іхнюю сучасную й моўную, і этнічную беларускасьць, але нават і пра тое, што гэткімі яны былі на працягу тысячы гадоў дасавецкаен гісторыі беларускага народу.

Некаторыя савецкія аўтары сучасныя адміністрацыйныя лініі імпэрыі знарок ці нясьведама, але блытаюць з сапраўднымі этнічна-нацыянальнымі межамі народаў імпэрыі. Калі ідзе пра землі беларускія, дык тут дасужыя савецкія партыйныя гісторыкі межы БССР расьцягваюць назад у часе на ўсю дасавецкую гісторыю беларускага народу, цібо сучасную савецка-расейскай імпэрыяльнай меркай вымяраюць і тэрыторыю, і гісторыю Беларусі пары далёкае ад часоў і Сталіна, і Брэжнева, і савецкага імпэрыяльнага ладу.

Яскравы прыклад перакіданьня межаў БССР на несавецкую пару гісторыі дае й сучаснае трактаваньне партыйнымі гісторыкамі справы пачаткаў друку ў Беларусі. Доктар Скарына, паводле іх, ужо не заснoўнік друкарні на беларускай зямлі, не выдавец першае друкаванае ў Беларусі кнігі. Для іх ён – пачынальнік друку ў Летуве-Жамойці на той адзінай аснове, што Вільня ад гадоў дваццаць колькіх фармальна ўлучаная Масквою ў межы Летувіскай ССР.

Нацыянальна якая ды чыя была Вільня ў пару, калі там паўставала першая друкарня, друкарня доктара Скарыны, сьведчыць яскрава тое, што з усіх 21 хрысьціянскіх сьвятыняў места таго часу, 14 было праваслаўных і толькі 7 каталіцкіх. З каталіцкіх – жа дзьве, сьвятой Ганны, сьвятога Мікалая, збудаваныя нямецкаю калёніяй Вільні, абслужвалі рэлігійныя патрэбы нямецкіх рамесьнікаў і купцоў, былі нямецкімі. Катэдра-ж і чатыры касьцёлы іншыя служылі таму беларускаму баярству й мяшчанству, што ўжо былі каталіцкай веры, невялікаму тады яшчэ лікам мяшчанству ды жыхаром розных іншых дробных нацыянальнасьцяў.

У праваслаўнай сваёй большыні сталічнай Вільні знаходзіліся тады і сядзіба літоўскага праваслаўнага мітрапаліта. За мітрапалітальны сабор служыла яму Прачысьценская царква. Усё справаводзтва ў месьце – дзяржаўна-урадавае, самаўрадавае, юрыдычна-судовае, царкоўнае, гандлёва-камэрцыйнае, прыватнае, вялося тады ў Вільні, як і ва ўсім Вялікім Княстве, толькі па-беларуску. Нават і каталіцкія біскупы Вільні свае граматы пісалі тады, калі не па-лацінску, дык кірыліцай па-беларуску.

Справамі свайго места віленскія мяшчане ў часы Скарыны кіравалі самі на аснове даўно вялікімі князямі загарантаванага ім "майборскага" права на свой меставы самаўрад. Для адміністрацыйнага ды юрыдычна-судовага парадкаваньня жыцьця места выбіраліся бурмістры й лаўнікі. Найстарэйшым бурмістрам Вільні ў часы дзейнасьці Скарынавае друкарні быў праваслаўны па веры купец Якуб Бабіч. Ён маральна й матэрыяльна падтрымліваў Скарыну ў ягоных захадах у справе друку праваслаўных кнігаў ды для гэтага ў сваім доме адвёў для Скарыны места пад друкарню.

Важная справа абароны места Вільні ў часы Скарыны была ў дазнаных руках вялікага гэтмана літоўскага, слаўнага пагромцы Масквы пад Воршай князя Канстантына Астроскага, тагачаснага віленскага каштэляна. Князь Астроскі, праваслаўны па веры сам, быў асабліва шчодрым апякуном праваслаўнае веры й царквы. У самой Вільні ён сваім коштам аднаўляў і будаваў праваслаўныя цэрквы.

З прыведзеных вышэй фактаў і лікаў відаць ясна, што жыхарства Вільні ў часы Скарыны ў дзьвёх найменш трэціх па веры было праваслаўным, па нацыянальнасьці-ж у вялікай бальшыні беларускім. Дык усе гутаркі савецкіх казённых гісторыкаў аб тым, што калі доктар Скарына друкаваў свае кнігі ў Вільні, дык друкаваў на чужой сабе, на жамойцка-летувіскай зямлі – хвальшаваньне гістарычнае праўды. Вільня была тады местам беларускім, праваслаўным, Скарына дзеяў у сваім нацыянальным асяродзьдзі, кнігі друкаваў для таго народу, з якога сам паходзіў, сярод якога жыў.

Дык Вільня ў часы Скарыны ня была напэўна местам летувіскім. Ніколі ня была яна гэткаю й праз усе пазьнейшыя вякі, калі места перажывала часы акаталічваньня, палянізацыі, канцэнтрацыі жыхарства жыдоўскага, ды пасьля масавы наплыў расейскага чыноўніцтва. Ня была Вільня летувіскай па складзе свайго жыхарства й тады, калі ўвосені 1939 году Масква адарвала места з бліжэйшымі аколіцамі ад земляў Заходняе Беларусі ды перадавала тагачаснай летувіскай рэспубліцы.

Міжваенныя перапісы ў больш як 200-тысячнай Вільні не рэгістравалі й 2000 жыхароў летувіскае нацыянальнасьці, цібо яна не складала й 1% усяго жыхарства. Ніякага летувіскага жыхарства ня было й на колькі дзесяткаў кілямэтраў навокала Вільні. Ведалі дасканальна гэта й тагачасныя валадары савецкае імперыі, калі перадавалі Вільню тым на яе прэтэндэнтам, што ніякіх аб'ектыўных падставаў да места ня мелі.

Пацьвердзіў гэта тады афіцыйна сам старшыня народных камісараў ды камісар замежных спраў СССР В.М.Молатаў. У сваёй прамове перад Вярхоўным саветам СССР 31 кастрычніка 1939 году ён заявіў: "Савецкі Саюз пайшоў на перадачу места Вільні Летувіскай рэспубліцы не таму, што ў ім пераважае летувіскае жыхарства. Не, у Вільні большыня жыхарства не летувіскае. Але савецкі ўрад лічыўся з гэтым, што места Вільня ... павінна належыць Летуве, як места гэткае, зь якім, з аднаго боку зьвязанае гістарычнае мінулае летувіскае дзяржавы, а з другога – нацыянальныя спадзяваньні летувіскана народу". ("Известия" 1.XI.1939)

Дык чырвоныя валадыры імпэрыі сьведама й знарок, з палітычных чыста меркаваньняў, ігнаравалі моўна-этнічныя, датычныя Вільні, факты. Гэты-ж вяліка-дзяржаўна-палітычны ход Масквы сучасныя партыйныя гістрыкі БССР кладуць цяпер у фундамэнт канцэпцыяў пра тысячнае мінулае Беларусі, Вільня ў якіх пакідаецца вонак беларускага народу.

Ведамы ўсім з грэцкае міталёгіі разбойнік вялікіх дарогаў Пракруст. Ён перайімаў падарожных, прыводзіў іх да сябе ды клаў у сваё слаўнае, прыказачнае Пракруства ложка. Тым, што ў ложка ня тоўпіліся, Пракруст адсякаў на адпаведную даўжыню ногі. Вось падобныя пракруставу працэдуру праводзіць цяпер і афіцыйная савецкая гістарыяграфія зь мінулым Беларусі. Тысячагодную гісторыю беларускага народу кладзе яна ў савецкае Пракруста ложка, у межы БССР, межы, што не абымаюць і паловы моўна-этнічнае беларускае прасторы, і ўсё тое, што за гэтымі межамі, яна адсякае й ці забірае для Расеі беспасярэдня, і, што з Расеяй не мяжуе, шчодра дзеліць іншым, ёю таксама паняволеным, суседзям Беларусі.

*(Заканч. ў наступ. нумары).*

# Узгадаваны зямлёй беларускай талент

Часта бывае ў жыцці недарэчнасць, што талент узгадаваны, выпешчаны у адным краі прыносіць гонар і славу іншаму. У гэтым выпадку беларусам не варта далёка хадзіць па прыклады. Імі бязмежна поўніцца наша гісторыя.

А яшчэ недарэчней, калі свайго геніяльнага суайчынніка мы цураемся, аддаём суседзям, з адной толькі простай нагоды, што ён твараў на іх мове, нягледзячы на тое, што сваё натхненне ён сілкаваў роднай зямлёю.



Станіслаў Манюшка

Усё гэта ў поўнай ступені адносіцца і да геніяльнага кампазітара Станіслава Манюшкі.

Часлаў Манюшка, чалавек перадавых поглядаў, здольны мастак ды паэт у свой час атрымаў у спадчыну непадалёку ад Менска, ля Смілавіч, фальварак Убель. Цудоўныя мясціны ля



Сядзіба ў Убелі

ціхай рэчкі Волпы. Вось тут у сціплым драўляным доміку 5 траўня 1819 года нарадзіўся будучы славуты кампазітар. Праз некалькі дзён на сямейнай урачыстасці хлопчыку далі імя Станіслаў – Ян – Эдвард – Казімір.

Папраўдзе кажучы, з гэтага роду выйшлі многія вучоныя – асветнікі. Дзядзька кампазітара, Дамінік, арганізаваў у Смілавічах бясплатную школу для мястачковай беднаты, навучаў дзяцей рамяству, а прыгонным аддаў зямлю. Акрамя таго ўвёў незалежны суд з удзелам сялян. Уладам такое вольнадумства не спадабалася і неўзабаве яны закрылі як школу так і суд.

Дзядзька Казімір закончыў Віленскі універсітэт, захапляўся батанікай, выводзіў новыя гатункі раслінаў. Яго вопытамі зацікавіўся Андрэй Снядэцкі, які не раз прыязджаў да яго ў Смілавічы. А дзядзька Юзаф проста любіў па святах ставіць у звычайным гумне аматарскія спектаклі. Як засведчана раней, бацька таксама меў паэтычныя і мастацкія здольнасці, а маці, Альжбэта Манюшка, іграла на фартэп'яна.

Акрамя гэтага культурнага асяроддзя дзяцінства Станіслава Манюшкі прайшло на ўлонні прыроды сярод простых беларускіх сялян. Простыя будзённыя песні, што спявалі жанчыны ў полі ці дзяўчаты на забаве вабілі слых хлопца. У іх адчувалася своеасаблівая гармонія. Ужо потым, у сталым узросце пачутае ў маленстве славуты кампазітар скарыстае ў сваіх творах.

Каб даць хлопцу адукацыю з верасня 1830 года сям'я Манюшкі селіцца ў Менску: напачатку ў драўляным будынку Клімковіча, што на рагу вуліц Валоцкай і Дамініканскай, а потым у камяніцы Паляковай на Высокім рынку. Будучага кампазітара прызначылі ў гімназію, навучацца музыцы ў Дамініка Стафановіча, брат якога Вінцук быў дырыжорам тэатральнага аркестра. Культурнае асяроддзе дома Манюшкаў і надалей моцна ўплывала на фарманванне маладога чалавека. Тут збіралася менская інтэлігенцыя. Прыходзіў стары музыкант і масон Пётр Карафа – Корбут. Не праміналі заходзіць мастакі Валянцін Ваньковіч і Ян Дамель ды іншыя.

Пасля паражэння лістападаўскага паўстання 1831 года бацьку кампазітара Часлава Манюшку звальняюць са службы. Вясной 1935 года Станіслаў вымушаны быў пакінуць гімназію. Надалей ён працягвае вучобу ў Вільні і Берліне, якую закончыў там жа ў 1840 годзе. У гэтым жа годзе ён вяртаецца ў Вільню, дзе ажаніўся з Аляксандрай Мюлер.

Малады кампазітар вымушаны быў зарабляць сабе на хлеб прыватнымі урокамі. Штонядзелю іграў на аргане ў касцёле святога Яна, які быў прывезены сюды з Полацка. У вольную хвіліну пісаў музычныя творы. У Менску ў яго было шмат сяброў. І ужо ў другой палове верасня 1941 года на ўрачыстасцях у сувязі прыездам новага генерал-губернатара Мірковіча была паказана камічная опера "Рэкруцкі набор". Словы напісаны былі Вінцуком Марцінкевічам, а музыку ў садружнасці са скрыпачом Канстанцінам Крыжаноўскім напісаў малады кампазітар Станіслаў Манюшка. Гэта была першая проба пяра. Газета "Минские губернские ведомости" адгукнулися на гэтую падзею добразычлівым артыкулам.

І тут завязалася дружба між маладым кампазітарам



Дом у Менску

Станіславам Манюшка і ўжо сталым паэтам Дунінаым-Марцінкевічам. Паэт напісаў лібрэта да опер славутага кампазітара "Чарадзейная вада", "Сялянка" (так у Беларусі перакладаюць польскую назву твора "Ідылія"), апярэты "Спаборніцтва музыкаў". Найбольш вядомаю, бадай, стала двухактавая "Сялянка", у якой сяляне гаварылі па-беларуску, а паны па-польску. Гэта была, бадай што, першая беларуская опера. Па некаторых меркаваннях яна была напісана ў 1844 ґодзе, аднак першая пастаноўка адбылася толькі 9 лютага 1852 года. Для ўдзелу ў оперы Дунін-Марцінкевіч прывёз сялянскі хор са свайго маёнтка Люцынка, а сам выступіў у ролі войта Навума. Прэм'ера спектакля адбылася ў тэатральнай зале дома Паляка, якая была перапоўнена. Музыка твора была заснавана на беларускіх народных мелодыях. У оперы гаворка была не толькі пра каханне Юліі да паніча Лятальскага, але высмейваліся тыя, хто адракаецца ад роднай зямлі. Акрамя таго героі проста скардзіліся на цяжкі прыгнёт, што і выклікала незадавальненне ўладаў і паследавала забарона. Яе ўсё ж удалося паказаць у Бабруйску, Віцебску, Нясвіжы, Слуцку ды Глуску.

У 1843 годзе вандроўная трупа немца Шмідкопфа з поспехам паставіла апэрэту "Латарэя" Яна спадабалася менчанам.

Найбольшым творчым здабыткам кампазітара з'яўляюцца оперы. Вялікую папулярнасць заваявала "Полька". 1 студзеня 1848 года яе выканалі віленскія аматары. Хутка кампазітар паслаў партытуру ў Варшаву, але там, на паліцах тэатральнай бібліятэкі яна безнадзейна праляжала дзесяць гадоў. Урэшце мара збылася. У першы вечар новага 1858 года варшаўскі оперны тэатр быў перапоўнены. Публіку прывабіла польскае імя на афішах. Пасля ўверцюры загрымелі апладысменты. Усе прысутныя зразумелі: нараджаецца нацыянальная опера. Станіслаў Манюшка становіцца дырыжорам Вялікага тэатра ў Варшаве і тут піша адну за другою оперы – "Плытагон", "Графіня", "Вербум нобіле". На тэкст Міцкевічавых "Дзядоў" піша кантату "Прывіды", яна наскрозь прасякнутая духам беларускай народнай музыкі.

І тут жа ў сценах Вялікага тэатра 28 верасня 1865 года ўпершыню прагучаў "Страшны двор" – вяршыня опернай творчасці Манюшкі.

Не без перабольшвання можна зазначыць што наш зямляк Станіслаў Манюшка ў гісторыі польскай музыкі заняў такое месца, як Глінка – у рускай, Сметана – у чэшскай. Да Манюшкі ў Польшчы выконваліся пераважна творы заходніх кампазітараў. У маёнтках спяваліся французскія песні. У тэатрах ставіліся італьянскія оперы. І толькі Манюшка прымусіў палякаў павярнуцца тварам да свайго, айчыннага.

Станіслава Манюшку можна параўнаць з другім слынным нашым земляком, Адамам Міцкевічам, які на небывалую вышыню ўзняў польскую паэзію. Але справядліва адзначыць, што абодва яны звярталіся да фальклорных багаццяў беларускага народа, яго паданняў, песняў, легендаў. Справядліва адзначыць, што паэтычную і творчую веліч ім дала беларуская зямля, беларускі народ.

*Язэп Палубятка.*

**БЕЛАРУСКІ ПАЭТЫЧНЫ ТЭАТР АДНАГО АКТОРА "ЗЬНІЧ"**

## У Касцёле св.Сымона і св Алены

**(пл.Незалежнасці, 15)**

**1999**

**ДЗЕВЯТЫ ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН**

## ТРАВЕНЬ

**3, 12** **А.Вярцінскі**
панядзелак **"Любіць"**
пачатак паэтычны монаспектакль па вершах
13.0 розных гадоў і паэме "Дажынкі"
серада Выканаўца – **Галіна Дзягілева**
пачатак Муз.суправаджэнне –
15.30 Кірыл Успенскі (гітара)

**10** **П.Васючэнка, С.Кавалёў**
панядзелак **"Дзівосныя авантуры паноў**
пачатак **Кубліцкага ды Заблоцкага"**
10.30 лялечны монаспектакль
Выканаўца – **Вячаслаў Шакаліда**

**12** **Н.Гілевіч**
серада **"Не праклінай, што я люблю..."**
пачатак монаспектакль паводле вершаванага
18.00 рамана "Родныя дзеці"
Выканаўца – **Мікола Лявончык**

**13** **Я.Купала**
чацвер **"Мне сняцца сны аб Беларусі"**
пачатак паэтычны монаспектакль
19.00 паводле малавядомых вершаў
Выканаўца – **Галіна Дзягілева**
Муз.суправаджэнне –
Кірыл Успенскі (гітара)

**14** **М.Багдановіч**
пятніца **"У краіне светлай, дзе я ўміраю..."**
пачатак паэтычна – музычны спектакль
15.00 Выканаўца — **В.Статкевіч, А.Шундрык**

**17** **Ф.Дастаеўскі**
панядзелак **"Рахманая"**
пачатак монаспектакль па аднаіменным
17.00 творы ў перакладзе А.Каляды
Выканаўца — **з.а.Ул.Шэлестаў**

**18** **"Віленскія мроі"**
аўторак монаспектакль паводле ўспамінаў
пачатак Юліяны Вітан-Дубейкаўскай і вершаў
17.00 Н.Атрымовіч
Выканаўца — **Галіна Дзягілева**

**21** **Л.Геніюш**
пятніца **"Белы сон"**
пачатак монаспектакль паводле "Споведзі" і
17.00 вершаў Л.Геніюш, выкарыстоўваючца вершы У.Арлова, У.Караткевіча, В.Ластоўскага, А.Разанава.
Выканаўца – **Галіна Дзягілева**

**24** **С.Кавалёў**
панядзелак **"Маленькі анёлак"**
пачатак монаспектакль паводле вершаў
11.00 Кармэн Барнос дэ Гаштольд
Выканаўца — **Раіса Астрадзінава**

**Мастацкі кіраўнік тэатра "ЗЬНІЧ" — Галіна Дзягілева**

У раскладзе могуць адбыцца змены, Даведкі па тэл. 231-75-53

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 3. 05. 99 г.
Наклад 4500 асобнікаў. Замова № 1251.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 10 000 руб.